4 чэрвеня 2021 | № 21 (729)
Выдаецца з сакавіка 2002 года

# Новы час

novychas.by
АГУЛЬНАПАЛІТЫЧНАЯ ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА
КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ
ISSN 2218-2144

Забіць дзеля прэміі
стар. 9

# Мужны, адчайны, невінаваты



Фота www.cdn.3bls.eu



Фота www.www.alamy.com



Фота www.svaboda.org

Вікторыя ЧАПЛЕВА

**Чарговы судовы працэс над чарговым палітвязнем мог стаць шараговым і амаль руцінным. Але стаў для ўсіх нас крыкам болю і адчаю. Прыкладам мужнасці і нескаронасці.**

Сцяпан Латыпаў, арбарыст, затрыманы на «Плошчы пераменаў», падчас судовага пасяджэння 1 чэрвеня ўткнуў сабе ў горла асадку. Гэта для яго быў адзіны спосаб абараніць свайго бацьку, сваіх сяброў, сябе ад ціску. Гэта быў крок болю і адчаю, крок мужнага невінаватага чалавека.

Усё, што я ведала пра Сцяпана Латыпава, — гэта гісторыя яго затрымання і артыкулы, якія яму прад'явілі. Напэўна, як і большасць. Аказалася, што сваякоў у Сцяпана няшмат. З блізкіх, якія былі на судзе, — бацька і цётка. Астатнія — сябры. Іх у Сцяпана багата.

Калі зняволенага вялі ў залу, нас адціснулі ў іншы калідор. Але я пабачыла яго са спіны, калі ён падымаўся па лесвіцы: хоць рукі ў яго былі ў кайданках, аднак ён усё ж зрабіў знак «перамогі».

Я доўга разглядала Сцяпана ў клетцы. Ён быў у той жа скуранай карычневай куртцы, што і падчас затрымання 15 верасня. Запясце правай рукі перабінтаванае, а на твары з-пад маскі бачыўся крывападцёк.

— Ці маю права карыстацца роднай мовай? — спытаў Сцяпан на пачатку пасяджэння. Суддзя Савецкага суда Мінска Аляксандр Воўк дазволіў, але сам працягнуў весці працэс па-руску.

Памочнік пракурора Уладзімір Рабаў амаль гадзіну зачытваў абвінавачанне. Найперш Сцяпана вінавацяць у парушэнні ч. 1, 2 арт. 342 («Арганізацыя групавых дзеянняў, якія груба парушаюць грамадскі парадак і спалучаныя з відавочным непадпарадкаваннем законным патрабаванням прадстаўнікоў улады, якія прывялі да парушэння працы транспарту і арганізацый, і актыўны ўдзел у такіх дзеяннях») і арт. 363 («Супраціў супрацоўнікам органаў унутраных спраў пры выкананні імі абавязкаў па ахове грамадскага парадку»). Ні па адным з абвінавачанняў Сцяпан вінаватым сябе не прызнаў.

Сярод пацярпелых — супрацоўнікі міліцыі, якія затрымлівалі Сцяпана на «Плошчы перамен» 15 верасня. Латыпава абвінавачваюць у тым, што пры затрыманні ён пагражаў супрацоўнікам міліцыі. Пацярпелы Рогаў на судзе сказаў, што Латыпаў, калі яго неслі да машыны, нанёс яму ўдар у правы бок галавы, прытым, ці быў гэта сапраўды ўдар, ён ужо не памятае: «Напэўна, ударыў, бо ў мяне пахіснулася кепка». Суддзя заўважыў супярэчнасць і зачытаў паказанні, якія той даваў 18 лютага — у іх было зафіксавана, што Латыпаў зрабіў на яго замах. Пасля гэтага Рогаў паправіў сябе: «Ён прамахнуўся і трапіў па кепцы».

Сцяпан спытаў:

— Пацярпелы, ці быў у вас характэрны ацёк на твары пасля 15 верасня 2020 года, як у мяне? — Сцяпан зняў маску. Цяпер гематома на правай частцы твару больш не хавалася пад маскай.

Людзі зашапталіся. Што гэта? Адкуль? Яго білі? А тым часам працягваўся допыт пацярпелых. Паводле іх паказанняў, Латыпаў іх не біў, а магчымыя яго замахі — гэта, хутчэй, міжвольныя рухі, калі ён намагаўся вырвацца з рук міліцыянераў. Адвакат задала ім аднолькавае пытанне: у чым яны лічаць сябе пацярпелымі? Сказалі, што пацярпелі маральна. Што ж, можа і так.

Памочнік пракурора таксама агучыў, што Латыпава абвінавачваюць па артыкуле 209 КК («Махлярства, здзейсненае ў асабліва буйным памеры»). Сцяпан — дырэктар і бухгалтар кампаніі «Беларба», якая спецыялізуецца на выдаленні небяспечных і аварыйных дрэваў і раслін і займаецца апрацоўкай ад шкодных раслін, напрыклад, баршчэўніка. Па версіі абвінавачвання, Сцяпан падманам заключаў дамовы з заказчыкамі і незаконна авалодваў іх грашыма.

Падчас перапынку цётка Сцяпана Галіна абуралася:

— Калі я паслухала амаль 45 хвілін абвінавачвання Сцяпана, то ў мяне склалася такое ўражанне, што мой пляменнік — гэта «варуга» і «хапуга». Такое адчуванне, што ён хацеў як мага больш грошай сабе забраць, пры гэтым нічога не рабіць. Я сама — біёлаг і аграном і добра ведаю, што такое баршчэўнік. Як патрэбна праца па яго вынішчэнні, бо ведаю людзей, якія пацярпелі ад гэтай расліны. А Сцяпан, як спецыяліст высокага класу, мае вялікія веды. Дамовы заключаліся, людзям тлумачылася, што будзе ісці апрацоўка. Ён сотні гектараў апрацоўваў! А цяпер яго выстаўляюць у такім святле, нібыта ён толькі і рабіў, што купюры з усіх збіраў…

А яшчэ ў 2015 годзе «СБ. Беларусь Сегодня» пісала пра Сцяпана як пра аднаго з найлепшых арбарыстаў у СНД.

Працяг на стар. 2 »

# Мужны, адчайны, невінаваты

« Заканчэнне. Пачатак на стар. 1

— Сутнасць абвінавачання мне не зразумелая, — казаў бацька Сцяпана Сяргей Латыпаў. — Асабліва, што тычыцца махлярства. Усе заявы ад кліентаў праходзяць дзяржкантроль.

Падчас перапынку я пазнаёмілася і з сябрамі Сцяпана. Марына вучылася з ім у сельскагаспадарчай акадэміі. Аліна — хадзіла разам на танцы. Аказваецца, Сцяпан займаецца бачатай. Гэтая танцавальная супольнасць пасля затрымання Сцяпана і стала яму дапамагаць, пасябраваўшы між сабой яшчэ больш.

І вось перапынак скончыўся. Мы зноў вярнуліся ў залу судовага пасяджэння. Прывялі і Сцяпана. Выклікалі першага сведку — Сяргея Латыпава. Памочнік пракурора папрасіў распавесці пра Сцяпана.

— Пра яго дзейнасць ведаю няшмат, — распавядаў Сяргей. — Ён добры чалавек, інтэлектуальна развіты, займае актыўную пазіцыю, мае пачуццё эмпатыі...

Я глядзела на Сцяпана, калі ў залу зайшоў яго бацька: ён узяў у рукі белую анучу, падобную на бінт, якім была пераматаная яго рука, і стаў нервова яе перабіраць. Тады падумала, што ён проста пачаў хвалявацца, як пабачыў бацьку... Але літаральна праз некалькі хвілін Сцяпан падняўся і сказаў тыя апошнія на пасяджэнні словы:




— Бацька! Пасля спаткання да мяне прыйшоў ГУБАЗіК. Паабяцалі, калі я не прызнаю віну, у мяне будзе «прэс-хата», крымінальныя справы супраць родных і суседзяў. «Прэс-хата» ў мяне была — 51 дзень. Так што ты рыхтуйся.

Пасля ён пачаў рэзаць сабе горла. Усё гэта здарылася літаральна ў некалькі секунд. Жанчыны пачалі крычаць. З усіх бакоў. Мне падаецца, што больш за ўсіх крычала яго сяброўка Аліна, якая перад гэтым папрасіла памяняцца са мной месцам, бо так яна лепш бачыла Сцяпана. «Сцёпа, не трэба!» — крычалі людзі. Клетку адразу адчыніць не атрымалася, бо ў канваіраў не было ключоў... Адчынілі тады, калі Сцяпан ужо ляжаў на лаўцы.

Нас выгналі ў калідор, там людзі працягвалі плакаць у істэрыцы. Выклікалі «хуткую». Мы чакалі на ганку медыкаў і хаця б нейкіх навін... Сцяпана вынеслі на насілках. Вочы ў яго былі расплюшчаныя, а майка — у крыві.

Я прысела на ганак побач з бацькам. Для яго ўжо адшукалі валідол, таму ён сядзеў спакойны, але разгублены...

— Яго з 11 красавіка трымалі ў камеры з людзьмі з псіхічнымі хваробамі. Астатняе — я бачыў тое ж самае, што і вы, — сказаў мне Сяргей Латыпаў. Пэўна, пра тую самую «прэс-хату», пра якую і сказаў Сцяпан у сваім апошнім на той дзень слове.

Мы не ведаем, што прыйшлося перажыць Сцяпану за гэтыя два месяцы. Не ведаем дакладна і тое, што хацеў сказаць сам Сцяпан, калі бязгучна, сціснуўшы анучай зубы, спакойна рэзаў сабе горла... Прапагандысты хуценька назвалі тое, што адбылося, «шоу»... Хочацца пажадаць ім усім, каб ні яны, ні іх родныя ніколі не былі ні ўдзельнікамі, ні гледачамі такіх «шоу».

Бо гэта быў крык. Крык адчаю мужнага і невінаватага мужчыны, які проста больш не ведаў, як абараніць, калі не сябе, то хаця б свайго бацьку і сяброў. Так бывае, калі крычыш без асаблівага спадзеву, што цябе пачуюць, але крычыш. Бо не можаш інакш.

І гэты крывавы вокліч адрасаваны не суддзям, міліцыі ўладам... Ён адрасаваны нам. Каб кожны раз, калі мы пачынаем баяцца або рабіць нашу хату крайняй, зноў і зноў узгадвалі гэты вокліч. Сцяпан не мог зрабіць большага, седзячы ў клетцы. А што можам зрабіць мы, па гэты бок кратаў?

***P.S.:*** *З будынка суда Сцяпана Латыпава тэрмінова даставілі ў былую «дзявятку» на Сямашкі. Адразу ў аперацыйную. Медыкам забаранілі даваць любую інфармацыю.*

*А ўжо ўвечары на афіцыйным канале Міністэрства аховы здароўя з'явілася паведамленне: «Стан 41-гадовага мужчыны, які прычыніў сабе цялесныя пашкоджанні ў зале суда, стабільны. Ён быў шпіталізаваны ў хірургічнае аддзяленне МНПЦ хірургіі, трансплантологіі і гематалогіі. Пацыент паступіў па экстраных паказаннях у 15:30. Пры паступленні былі выкананы ўсе неабходныя медыцынскія мерапрыемствы, была праведзена апрацоўка раны. На дадзены момант стан пацыента стабільны, сітуацый, якія пагражаюць жыццю, няма. Пацыент прыйшоў у сябе пасля наркозу».*

*На наступны дзень, 2 чэрвеня, стала вядома, што Латыпава ўжо няма ў лякарні. «Падобна на тое, што ён знаходзіцца ў СІЗА №1 на Валадарскага. Там для яго сёння прынялі перадачу», — перадалі родныя Сцяпана журналістам tut.by.*

*На момант здачы нумару ў друк больш дакладнай інфармацыі мы не атрымалі.*

# Пастка для дыктатуры

**Цягам апошняга тыдня Беларусь аказалася амаль цалкам ізаляванай ад свету, але рэпрэсіі на гэтым тле не сціхаюць. Галоўныя падзеі — у нашым дайджэсце.**

Еўрапейскае агенцтва авіяцыйнай бяспекі (EASA) апублікавала заяву, у якой прызнала паветраную прастору Беларусі небяспечнай. EASA рэкамендуе авіякампаніям уваходзіць у беларускае неба толькі ў выпадку крайняй неабходнасці. Што яны і паспяшаліся зрабіць: мала таго, што еўрапейскія авіякампаніі перасталі лётаць у Беларусь і праз яе, дык яшчэ і шэраг краінаў забаранілі лётаць да іх «Белавія».

Увечары 25 траўня ў Мінску 17-гадовы Дзмітрый Стахоўскі, фігурант крымінальнай справы за ўдзел у «масавых беспарадках» 9–11 жніўня 2020 года (ч. 2 арт. 293 КК), скончыў жыццё самагубствам — скокнуў з 16-павярховага будынка. Хлопец перад гэтым пакінуў перадсмяротны пост у сацсетцы «ВКонтакте», у якім тлумачыць свой учынак крымінальным пераследам праз удзел у мітынгах. Вядома, што днём 25 траўня ён быў на допыце па гэтай справе. У сваім допісе ў сацсетцы «ВКонтакте» хлопец адзначыў: «Калі б на мяне не працягвалі маральна ціснуць, думаю, я б не наважыўся на такі жудасны ўчынак, як суіцыд. Але мае сілы былі на зыходзе».

Федэральная пракуратура Германіі пачала папярэдняе расследаванне па заяве пра гвалт над удзельнікамі акцый пратэсту ў Беларусі. Заява была пададзеная ў пачатку траўня чатырма берлінскімі адвакатамі ад імя дзесяці беларусаў, пацярпелых ад сілавікоў у жніўні мінулага года. Гаворка ідзе пра нечалавечыя ўмовы перавозкі, утрымання пад вартай, збіццё, пагрозы і абразы.

На экстраным пасяджэнні праўлення Еўрапейскага роварнага саюза было прынята рашэнне аб адмене чэмпіянату Еўропы па веласпорце на трэку, які павінен быў прайсці ў Мінску 23–27 чэрвеня.

Беларускі Стася Гліннік (унучка Станіслава Шушкевіча) і Бажэна Шамовіч 26 траўня заявілі пра бестэрміновую галадоўку ля офіса Еўракамісіі ў Варшаве. 27 траўня да іх далучыўся чалец страйкама «Беларуськалія» Дзмітрый Кудзялевіч, які часова пераехаў у Варшаву з Салігорска. Агулам у галадоўцы ўжо 5 чалавек. Патрабаванні галадоўкі — пераход ад дэкларатыўных да рэальных і эфектыўных эканамічных санкцый супраць Лукашэнкі і яго атачэння.

Міністры замежных спраў краін «Вялікай сямёркі», а таксама Высокі прадстаўнік ЕС прынялі заяву па сітуацыі ў Беларусі. У ёй асуджаюцца беспрэцэдэнтныя дзеянні беларускіх уладаў па арышце незалежнага журналіста Рамана Пратасевіча і яго спадарожніцы Сафіі Сапега. Аўтары заявы абяцаюць нарошчваць намаганні дзеля вызвалення палітвязняў у Беларусі, у тым ліку, у выпадку неабходнасці, шляхам увядзення дадатковых санкцый.

Экс-прэтэндэнт у кандыдаты на прэзідэнцкіх выбарах у Беларусі 2020 года Валерый Цапкала прапанаваў за арышт Лукашэнкі выплаціць 11 мільёнаў еўра. Такой сумай узнагародзяць прадстаўнікоў сілавых органаў ці грамадзянскай супольнасці, якія спрычыняцца да затрымання і арышту, як кажа Цапкала, «злачынцы № 1». За два дні было сабрана больш за 126 тысяч еўра ад 225 чалавек.

З Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя Максіма Горкага звольнілі артыста Аляксандра Ждановіча. Большасці ён вядомы як «Маляваныч» з дзіцячай «Калыханкі». Увосень яго асудзілі на 9 сутак — падчас акцыі пратэсту артыст заступіўся за жанчыну. І нават пасля гэтага ён адкрыта казаў пра фальсіфікаваныя выбары, пісаў у сацыяльных сетках. Дырэктар тэатра Эдуард Герасімовіч сказаў, што актора звольнілі паводле артыкула 47 Працоўнага кодэкса — за страту даверу з боку наймальніка.

Нобелеўская лаўрэатка Святлана Алексіевіч і галівудская зорка Анжаліна Джалі абмеркавалі сітуацыю ў Беларусі на сустрэчы, якую зладзілі «Фонд культурнай салідарнасці» разам з Amnesty International. Акторка і пасол добрай волі ААН сказала, што надзвычай уражаная кнігай «У вайны не жаночы твар», якую нядаўна прачытала. Яна таксама выказала занепакоенасць наконт ціску на дзіцячы хоспіс у Гродна, за сітуацыяй вакол якога пільна сочыць. Анжаліна і Святлана таксама размаўлялі пра палітвязняў і спосабы іх падтрымкі. У прыватнасці, беларуская пісьменніца распавяла пра гісторыю 17-гадовага Мікіты Залатарова. Размова цягнулася каля дзвюх гадзінаў.

У ААН запрацаваў новы механізм па фіксацыі парушэння правоў чалавека ў Беларусі. Людзі, якія ў Жэневе пачнуць працаваць у складзе гэтай місіі, будуць збіраць факты, якія ім перададуць групы і ініцыятывы беларускіх праваабаронцаў, што займаюцца рэгістрацыяй фактаў катаванняў. Разам са стварэннем камісіі прызначаныя тры незалежныя эксперты. Магчыма, гэтая працэдура зойме некалькі гадоў, але вінаватым ужо на міжнародным узроўні немагчыма будзе ўнікнуць адказнасці.

Генпракуратура Беларусі распачала крымінальную справу супраць мэра Рыгі Марцiньша Стакіса і міністра замежных спраў Латвійскай Рэспублікі Эдгарда Рынкевічса справу за «ўзбуджэнне нацыянальнай варожасці». Яна тычыцца замены ў цэнтры Рыгі чырвона-зялёнага сцяга на бел-чырвона-белы. Генпракуратура тлумачыць, што мэр Рыгі і кіраўнік МЗС Латвіі здзейснілі здзек з дзяржаўнай сімволікі, што «прынізіла нацыянальную годнасць беларусаў».

Еўрапейскі вяшчальны саюз (EBU) вырашыў прыпыніць сяброўства «Белтэлерадыёкампаніі» ў арганізацыі. Гэта азначае, што БТ не зможа праводзіць нацыянальныя адборы і паказваць дарослае і дзіцячае «Еўрабачанне», а таксама пазбавіцца права танна купляць правы на спартыўныя трансляцыі, выкарыстоўваць партнёрскія матэрыялы і матэрыялы інфармацыйных агенцтваў.

Чыноўнікі дапоўнілі Працоўны кодэкс новай падставай для звальнення — адсутнасць на працы праз адбыццё адміністрацыйнага арышту. Пазбавіцца працы можна будзе таксама за «зліў» інфармацыі пра арганізацыю. Улады таксама ўводзяць новаўвядзенні па забастоўках. Да прыкладу, зволніць страйкоўцаў змогуць без папярэдняга паведамлення або згоды прафсаюза. Гэтыя і іншыя змены пачнуць дзейнічаць з 30 чэрвеня.

Супраць затрыманага 16 траўня на Цнянскім вадасховішчы ў Мінску 31-гадовага раварыста Канстанціна Сямёнава ўзбудзілі крымінальную справу за абразу прэзідэнта. Прычынай крымінальнай справы стала цішотка хлопца, за якую яго затрымалі перад гонкай Toure de Tsna і арыштавалі на 15 сутак, з надпісам «Дыктатару месца ў пекле» і партрэтам чалавека, падобнага да Лукашэнкі. Па артыкуле 368 Крымінальнага кодэкса Канстанціну пагражае пазбаўленне волі да двух гадоў.

Генеральны сакратар NATO Енс Столтэнберг заявіў, што альянс абмяжуе доступ прадстаўнікоў з Беларусі ў штабкватэру NATO. Беларусь з'яўляецца партнёрам NATO з 1995 года ў рамках праграмы двухбаковага супрацоўніцтва «Партнёрства дзеля міру».

Раніцай 1 чэрвеня журналісту «Трыбуны» Дзмітрыю Руто патэлефанавалі і папрасілі адагнаць аўтамабіль. Руто выйшаў на вуліцу і ўбачыў каля машыны міліцыянтаў у форме. Тыя паведамілі, што паступіў званок у міліцыю са скаргай ад неабыякавых грамадзян на футбольны шалік у аўтамабілі. Журналіста асудзілі на 15 сутак за несанкцыянаванае пікетаванне. Яшчэ нядаўна падобная атрыбутыка знаходзілася ў вольным продажы і карысталася папулярнасцю ў заўзятараў зборнай Беларусі па футболе.

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Тыдзень у праблемах

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Перамовы Лукашэнкі і Пуціна, якія доўжыліся пяць гадзін, дый яшчэ некаторы час на яхце, падалей ад чужых вачэй, выклікалі багата здагадак, разваг і тэорый у палітолагаў і экспертаў. Паколькі пра вынікі, як гэта заведзена апошнім часам, прэсе не паведамлялі, то прастора для чутак і версій — папросту велізарная.**



Фота Аляксандра Зянькoвіча

Нехта кажа, што Пуцін «злівае» Лукашэнку, нехта — што, наадварот, падтрымлівае. Некаторыя мяркуюць, што Расія блізкая да інкарпарацыі Беларусі, іншыя — што ёй такі «праблемны актыў» і дарма не трэба. І гэтак далей і далей. Усе чамусьці думаюць, што два кіраўніка вырашалі лёсавызначальныя пытанні і абмяркоўвалі сусветныя праблемы. А на самай справе ўсё можа быць зусім не так.

Вось, напрыклад, пісалі мы ў мінулым аглядзе, што з-за скандалу з рэйсам Ryanair беларускія банкі аказаліся адрэзаныя ад крыніцы наяўных долараў, паколькі бралі іх на хабах Еўропы. Няма самалётаў — няма дастаўкі валюты. Значыць, трэба шукаць іншыя шляхі. Таму Пуцін і Лукашэнка маглі размаўляць пра тое, як атрымаць наяўныя долары праз адпаведныя банкаўскія структуры ў Маскве.

Да таго ж Беларусі трэба выплачваць крэдыты, якія наміналіваныя, у асноўным, у валюце. Між тым, у структуры нашых золатавалютных рэзерваў прыкладна палова — гэта манетарнае золата, у тым ліку залатыя злiткі. А калі на пагашэнне крэдытаў будуць выдаткоўвацца ЗВР, то гэтыя зліткі трэба недзе прадаць. Самалёты, зноў жа, не лятаюць: дзе прадаць золата, куды яго везці? Ці можна тое зрабіць у Маскве, ці дае на гэта дазвол Пуцін?

На гэтым тыдні скончыўся 45-дзённы «ахоўны перыяд» — набыў моц санкцыі ЗША ў дачыненні да «Белнафтахіма» і яго прадпрыемстваў. Пры гэтым структура санкцый ЗША значна змянілася: калі раней пад іх траплялі толькі «падсанкцыйныя» кампаніі, то цяпер — усе контрагенты, якія маюць справу з санкцыйнай прадукцыяй: ад дылераў да банкаў. У сувязі з гэтым, канешне, узнікае пытанне, як прадаваць беларускія нафтапрадукты ў Еўропу. Вядома, «Белнафтахім» прымудрыўся не падзяліць бензін на выраблены на «Нафтане», у дачыненні да якога дзейнічаюць санкцыі, і выраблены на Мазырскім НПЗ, у дачыненні да якога санкцый няма. Але гэта можа прывесці толькі да таго, што ЗША «забаняць» увесь беларускі бензін цалкам. А значыць, патрэбныя схемы яго перапраўкі на Захад. Напрыклад, праз парты ў Усць-Лузе (аб чым у нас ёсць дамоўленасць з Расіяй) і, можа быць, пад выглядам расійскай прадукцыі. Кшталту таго, як у Маскве з'явіліся некалі «беларускія крэветкі», так і ў Гамбургу, можа быць, з'явіцца «расійскі бензін».

Але без Пуціна гэта наўрад ці правернеш.

І наогул, хутка ў нас бензіну будзе хоць заліся. Вось адказалі мы на ўкраінскае «закрыццё неба» тым, што спынілі пастаўкі АІ-95. Дык кіраўнік «Укртатнафты» Павел Аўчарэнка нават не засмуціўся з таго факту. Адзін Крэменчугскі НПЗ забяспечвае нафтапрадуктамі 43% рынку Украіны, пры гэтым перапрацоўваючы 7,5 тысячы тон нафты ў месяц. А магутнасці завода дазваляюць перапрацоўваць да 12,5 тысячы тон. Гэта значыць, ледзь не палова прадпрыемства прастойвала. «У нас прама цяпер стаяць пад разгрузкай два танкеры ў порце на 160 тысяч тон нафты», — сказаў Аўчарэнка, празрыста намякаючы на тое, што ім ад беларускага «эмбарга» не холадна, не горача.

Куды падзецъ беларускі бензін, і колькі яго возьме Расія? Таксама цікавае пытанне для абмеркавання.

Акрамя таго, Беларусь усталявала разавае ліцэнзаванне імпарту асобных тавараў з Украіны. У гэты пералік традыцыйна трапілі кандытарка, піва, шпалеры, будаўнічыя матэрыялы. Але ў спіс чамусьці ўнеслі і «ампулы шкляныя». Пуціна павінна было зацікавіць, у якую тады тару мы будзем разліваць вырабленую ў Беларусі расійскую вакцыну ад COVID-19 «Спутник V»? І так людзі скардзяцца на перабої з дозамі, а цяпер што?

А яшчэ Еўропа так абурылася прымусовай пасадкай Ryanair, што задумалася наконт санкцый у дачыненні да «Беларуськалія», і нават пра перакрыццё транзіту расійскага газу праз Беларусь. Калі раптам здарыцца апошняе, то Расіі давядзецца зноў адкручваць газавыя кранікі ў напрамку «варожай» Украіны, што страты не толькі для Беларусі, але і для Пуціна як сярпом па прычынным месцы. Праблема? Так.

І нават не варта казаць пра абвешчаны вынік перамоваў — дазвол «Белавія» наўзамен Еўропы лётаць у расійскія рэгіёны. Як быццам ім раней хтосьці забараняў гэта рабіць. Нявыгадна было — вось і не лёталі. А цяпер, калі паліва будзе — заваліся, а ў іншыя краіны не пускаюць, можна і заняцца тым, што раней лічылася непрыбытковым.

Толькі гэтыя пытанні, без розных «геапалітычных выбараў» ды «інтэграцыйных картаў», маглі заняць нават не пяць гадзін, а значна больш часу для абмеркавання. Бо гэта даволі істотныя рэчы: фінансы, энергетыка, транзіт. Наўрад ці іх можна вырашыць без Пуціна.

Але расказваць такое журналістам — сумна, доўга і нявыгадна. Бо ў кожнага нармальнага чалавека ўзнікне пытанне, чаму і навошта беларускія ўлады дзейнічаюць у рэжыме мексіканскага серыялу — то-бок спачатку ствараюць сабе праблемы, а потым доўга і цяжка іх «разрульваюць». І пры гэтым не толькі самі спрабуюць «разруліць», але і з нейкай незразумелай логікі перавешваюць іх на суседнюю дзяржаву і суседняга кіраўніка.

А ад такіх пытанняў недалёка і да высновы, што праблема насамрэч,— у крыніцы праблем. І вырашаецца гэтая першапачатковая праблема проста ў тры крокі: вызваленне палітвязняў, перамовы з апазіцыяй і новыя выбары па стандартах АБСЕ.

Цікава, але ў Крамлі гэта зразумелі. Не проста ж так Пуцін сказаў, што інтэграцыя ў Саюзнай дзяржаве павінна ісці не спяшаючыся, спакойна. Раней пра тое, што «спяшацца не трэба», казаў выключна Лукашэнка, а Крэмль наадварот усяляк падштурхоўваў Мінск па шляху да «глыбокай інтэграцыі». Цяпер «не спяшацца» заклікае Пуцін: імаверна, з разумення, што любыя інтэграцыйныя пагадненні, падпісаныя чалавекам, якога не прызнаюць легітымным прэзідэнтам, нічога не вартыя.

Па ідэі, усвядоміўшы «а», Крэмль павінен рабіць і «б» — хоць бы падумаць пра тое, каб у Беларусі з'явілася ўлада, з якой можна будзе размаўляць далей. На тыдні прозвішча Святланы Ціханоўскай знікла з базы даных асоб, якія ў крымінальным вышуку на тэрыторыі Расіі. Супадзенне?

ФІГУРЫ ТЫДНЯ

## Раман Пратасевіч



**Затрыманы ў выніку прымусовай пасадкі рэйсу Ryanair у Мінску актывіст і журналіст не застаецца па-за ўвагай міжнароднай супольнасці.**

Пратасевіч стаў лаўрэатам прэміі Ion Raţiu Democracy. Гэта прэмія накіравана на прыцягненне міжнароднага прызнання да ідэй і дасягненняў людзей ва ўсім свеце, якія працуюць у імя дэмакратыі.

Апроч таго, былы сустаршыня нямецкай партыі «Саюз-90»/«Зялёныя», кіраўнік парламенцкага камітэта па транспарце і лічбавай інфраструктуры Джэм Оздэмір узяў шэфства над Пратасевічам. Пра гэта паведаміла нямецка-швейцарская няўрадавая арганізацыя «Libereco», якая ініцыявала кампанію шэфства над беларускімі палітвязнямі дэпутатаў бундэстага.

«Дыктатар Лукашэнка вымушаны баяцца ўласнага народа і ўтрымліваць уладу з дапамогай гвалту ў дачыненні да дэмакратычнага руху ва ўласнай краіне. Выкраданне і ўзяцце ў палітычныя закладнікі Рамана Пратасевіча з'яўляецца актам дзяржаўнага тэрарызму і атакай на нашы еўрапейскія каштоўнасці», — заявіў Оздэмір. Адначасова Оздэмір заклікаў урад ФРГ прыкладаць больш намаганняў для выхаду на свабоду палітычных зняволеных у Беларусі.

У рамках кампаніі салідарнасці #WeStandBYyou шэфства над беларускімі палітвязнямі ўзялі больш за 180 дэпутатаў бундэстага.

## Аляксандр Францкевіч



**Анархісту і палітвязню Аляксандру Францкевічу інкрымінуюць яшчэ адзін артыкул — ч. 3 арт. 130 КК РБ («Распальванне расавай, нацыянальнай, рэлігійнай альбо іншай сацыяльнай варожасці»).**

Як распавяла маці вязня Таццяна Францкевіч, да Аляксандра прыходзіў следчы з групы Цыбульскага з ГУБАЗіК. Цыбульскі вядзе следства па справе Францкевіча цяпер, і затрымліваў яго яшчэ ў 2010 годзе. Ад гэтага следчага і стала вядома пра новае абвінавачанне.

Дакладная прычына выстаўлення дадатковага абвінавачання невядомая. Маці мяркуе, што гэта звязана з тым, што яе сын — анархіст і раней ужо быў судзімы.

Цікава, што Францкевіч быў затрыманы 13 жніўня на выхадзе з пад'езда дома, дзе пражываў. Спачатку яму было прад'яўленае стандартнае абвінавачанне ў «арганізацыі масавых беспарадкаў». 28 студзеня стала вядома, што супраць яго, а таксама супраць палітвязняў Акіхіра Гаеўскага-Ханады, Андрэя Чапюка і яшчэ некалькіх чалавек распачата крымінальная справа па ч. 2 арт. 285 Крымінальнага кодэкса — «Удзел у злачыннай арганізацыі ў любой іншай форме».

Акрамя таго, паводле апошняй інфармацыі, Францкевіча вінавацяць па ўсіх трох частках артыкула 293 Крымінальнага кодэкса («Арганізацыя масавых беспарадкаў, удзел у іх, навучанне ці іншая падрыхтоўка да ўдзелу»).

Раней Таццяна Францкевіч распавядала, што ў КДБ у дачыненні да яе сына ўжываліся катаванні.



## Ірына Новік

**Затрыманая да суда рэдактарка спецпраектаў Honda Life. Яе выклікалі да ўчастковага. Журналістка прыехала ў аддзяленне міліцыі, дзе яе і затрымалі.**

Новік была змешчана ў ізалятар часовага ўтрымання да суда. Яе будуць судзіць як фізічную асобу па арт. 19. 11 КаАП «распаўсюд інфармацыйных прадуктаў, якія змяшчаюць заклікі да экстрэмісцкай дзейнасці або прапагандуюць такую дзейнасць».

Галоўны рэдактар Hrodna.life Аляксей Шота даведаўся пра гэта ад прадстаўніка УУС Андрэя Пігульскага. У Шоты сілавікі правялі агляд. Яго затрымалі, а потым вызвалілі з Ленінскага РАУС Гродна — да суда.

У Шоты забралі ноўтбук, тэлефон, тры старых жорсткіх дыскі і бел-чырвона-белы парасон. Яго вінавацяць па тым жа арт. 19. 11 КаАП.

Міліцыя пракаментавала затрыманне галоўрэда Hrodna life: «Падчас маніторынгу сеткі інтэрнэт супрацоўнікамі Ленінскага РАУС Гродна выяўлены факт размяшчэння сайтам Hrodna life інфармацыйнай прадукцыі, прызнанай ва ўстаноўленым парадку экстрэмісцкай». Аднак пазней высветлілася, што відэакаментар запісаны… за два дні да затрымання Шоты! Відэа было змешчана на YouTube 28 траўня, а затрымлівалі Шоту 30-га.

Азбука паліталогіі

# Чаму англічанка шкодзіць?



Сяргей НІКАЛЮК

**Той, хто казаў пра немагчымасць рэфармавання Беларускай мадэлі, чарговы раз трапіў пальцам у неба. Яе ўдасканаленне ідзе поўным ходам. Узяць хоць бы падпісаны 24 траўня закон, які карэктуецца заканадаўства аб сродках масавай інфармацыі.**




Абмяжуюся адной цытатай, запазычанай з прэс-рэлізу на галоўным сайце краіны: «Пашыраецца пералік інфармацыі, распаўсюджванне якой у СМІ і на інтэрнэт-рэсурсах забаронена. У прыватнасці, уводзіцца забарона на размяшчэнне вынікаў апытанняў грамадскай думкі, якія адносяцца да грамадска-палітычнай сітуацыі, праведзеных без атрымання неабходнай акрэдытацыі. Таксама не дапускаецца размяшчэнне спасылак на паведамленні і матэрыялы, якія ўтрымліваюць інфармацыю, распаўсюджванне якой забаронена».

«Многія веды — многія смуткі». Слушнасць цара Саламона (кіраваў паміж 965 і 925 гадамі да н.э.) за тры тысячагоддзі так ніхто і не змог абвергнуць. А для тых, каму цары не ўказ, нагадаю прыказку: «Менш ведаеш — мацней спіш».

## Новая гістарычная супольнасць

Няма нічога дзіўнага ў тым, што Юрый Андропаў, адзін з удзельнікаў гонак на лафетах, незадоўга да таго, як знайсці супакаенне ў крамлёўскай сцяне, праславіўся наступным несмяротным прызнаннем: «Мы не ведаем грамадства, у якім жывем».

15 гадоў на пасадзе старшыні найкампетэнтнага з кампетэнтных органаў краіны на ўзроўні яго асабістых ведаў не адбілася. Што тады казаць пра першых асобаў дзяржавы, якія не прайшлі школу КДБ!

Таму і стаў рэфарматар савецкай сістэмы Міхаіл Гарбачоў яе магільшчыкам. Свае намаганні ён скіраваў на эканамічнае развіццё краіны, дэмакратызацыю грамадства і на разрадку міжнароднай напружанасці. Добрыя намеры! Адзін лепшы за другі! Але добрыя намеры пракладаюць дарогу ў пекла. Бяда прыйшла, адкуль не чакалі: рэформы згенеравалі нацыянальныя канфлікты на ўскраінах савецкай імперыі — і панеслася...

Дам слова расійскаму эканамісту Уладзіславу Іназемцаву: «Светапогляд камуністычнай кіроўнай вярхушкі ў пытаннях нацыянальнай палітыкі быў даволі маналітны: яе прадстаўнікі шчыра верылі, што ў СССР склалася новая гістарычная супольнасць людзей, «якая стала заканамерным вынікам сацыяльнага прагрэсу, эканамічнага і палітычнага збліжэння народаў, сцвярджэння сацыялістычнай ідэалогіі, выраўноўвання ўзроўняў культурнага і эканамічнага развіцця народаў...» (Асновы навуковага камунізму, 2-е выданне. Пад рэдакцыяй П. Федасеева).

А цяпер перанясемся ў Год народнага адзінства, г. зн. у 2021-ы. Нескладана заўважыць, што вера яго архітэктараў у магчымасць дасягнення адзінства ў грамадстве шляхам карэкціроўкі закона аб СМІ па сіле не саступае веры іх савецкіх папярэднікаў. Але колькі не кажы «халва», у роце саладзей не стане. За два апошнія дзесяцігоддзі аўтар «Азбукі паліталогіі» так і не здолеў прачытаць — ні ў дзяржаўнай публіцыстыцы, ні ў навуковых выданнях — артыкул, у якім бы разглядалася структура беларускага грамадства. І «залатым пёрам», і разумнікам з навуковымі ступенямі публічна абмяркоўваць рэальныя праблемы забаронена.

## Ведай нашых!

Гісторыя кожнага грамадства пачынаецца з геаграфіі. Бог не даў беларусам выхаду да мора, чым рэзка абмежаваў культурны абмен з еўрапейскімі суседзямі. Адсюль праваслаўе, а не каталіцызм. Адсюль спазненне з фарміраваннем нацыянальнай ідэнтычнасці, якое не дазволіла супрацьстаяць уплыву з Усходу. Паглядзіце на балтаў і палякаў. Страта дзяржаўнасці не пазбавіла іх здольнасці адчуваць сябе еўрапейцамі. Таму пры першай жа магчымасці яны развіталіся са старэйшым братам.

Як паміж лесам і стэпам размяшчаецца лесастэп, так паміж Расіяй і Еўропай сфарміравалася зона лімітрофа (ад лацінскага limitrophus — «памежны»). «На лімітрофе, — тлумачыць культуролаг Ігар Якавенка, — фарміруецца спецыфічнае светаадчуванне. Там усведамляюць сябе як своеасаблівы свет, не роўны з цывілізацыйнымі цэнтрамі. Таму, у прыватнасці, насельніцтва лімітрофа дэманструе ідэалагічнае развядзенне з суседнімі цывілізацыямі».

**Палітычнай эліце ў зоне лімітрофа з яго спецыфічным светаадчуваннем не да развіцця. На парадку дня паўстала неабходнасць «пашыраць магчымасці для самарэалізацыі патрыятычна настроеных актыўных грамадзян»**

Беларускі варыянт усведамлення сябе асаблівым светам ва ўласцівай яму афарыстычнай форме выказаў у 2010 годзе галоўны герой «Азбукі паліталогіі»: «Мы не выбіраем паміж Усходам і Захадам і не маем намеру быць чым-небудзь прыдаткам. У Беларусі сваё годнае месца ў Еўропе і свеце».

Лепш і не скажаш. Такі вось узровень самабытнасці! У Германіі, Францыі, Італіі і далей па спісе няма свайго месца ў свеце, а ў краіны пад белымі крыламі ёсць. Ведай нашых!

Але і Расіі няма сэнсу марыць нас прысабечыць. Не, мы не супраць Саюзнай дзяржавы, пад крылцам якой спадзяемся атрымліваць нафту і газ па ўнутрырасійскіх цэнах. Мы не супраць. Што можа быць натуральней за жаданне і рыбку з'есці, і ногі не замачыць? Аднак суверэнітэт і незалежнасць — гэта святое.

## Ніякавець і шкодзіць

Дзявяты вал рэформаў накрыў Беларусь. Як толькі адзіны палітык паспявае падпісваць законы, што аднагалосна прымаюцца двухпалатным парламентам?! Яму сёння не пазайздросціш.

Але не варта блытаць сапраўдныя рэформы з імітацыйнымі сурагатамі. Існуе меркаванне, што ў якасці крытэрыю варта разглядаць свабоду. Маўляў, сапраўдныя рэформы накіраваныя на яе павелічэнне. У якасці прыклада прыводзіцца Аляксандр І, які адмяніў у 1861 годзе прыгоннае права. Контрпрыклад — дзейнасць Пятра І. Бясспрэчна, імператар падняў Расію на дыбкі. Але якой цаной? Цаной максімальнага зацугляння ўсіх слаёў імперыі. Горнарудная галіна, заснаваная на працы прыгонных, — адзін з прыкладаў такога рэфарматарства.

Крыху статыстыкі: у 1718 годзе ў Расіі выплаўлялася 6,6 мільёна пудоў чыгуну, а ў 1820 годзе — 9 супраць 25 мільёнаў пудоў у Вялікабрытаніі. Да 1850-га суадносіны склалі 1/10: 14 мільёнаў супраць 140 мільёнаў пудоў. Цікава, наколькі такая дынаміка прымушала ніякавець пагардлівую англічанку? Ці не з гэтай прычыны яна пачала ўсё псаваць?

Аднак пакінем мінулае мінуламу і з дапамогай выказвання, падслуханага на пасяджэнні Вышэйшага Еўразійскага эканамічнага савета, перанясемся ў цяперашні час: «Відавочна, што так званы калектыўны Захад не зацікаўлены ва ўмацаванні нашага Саюза і ўзмацненні новага канкурэнта на сусветным рынку».

Пра якую канкурэнцыю гаворка? Можа, пра канкурэнцыю «Інтэграла» з Intel або «Гомсельмаша» з John Deere? Звернемся да штогодніка Белстата: калі ў 2011-м у Беларусі было выраблена 1,7 мільёна інтэгральных мікрасхем, то ў 2019 годзе — 1,5 мільёна. За гэты ж час вытворчасць збожжаўборачных камбайнаў знізілася з 1900 штук да 640 штук. Пагадзіцеся, тут ёсць чаму зайздросціць, ёсць перад кім ніякавець! Шкодзіць і ніякавець!

## Інвестыцыі ў эканоміку ўчарашняга ворага

Набіраю ў Яндэксе два, здавалася б, неспалучальныя словы: «В'етнам» і «мікраэлектроніка». Прыводжу загалоўкі трох першых дакументаў: «В'етнам стаў “ціхай гаванню” для вытворцаў...», «Intel інвестуе яшчэ $ 475 млн у завод у В'етнаме», «“В'етнам, Ханой”. Выстава электроннага абсталявання...»

Вось такія справы. За восем гадоў актыўнага ўдзелу ў баявых дзеяннях у В'етнаме (1965–1973) амерыканцы страцілі 58 тысяч чалавек. Страты толькі Паўночнага В'етнама і толькі вайскоўцаў склалі 1,1 мільёна. А сёння інвестыцыі Intel у эканоміку ўчорашняга ворага перавысілі $ 1,5 мільярда!

Па тлумачэнне парадоксу далёка хадзіць не трэба: «В'етнам становіцца ўсё больш важнай часткай глабальнага ланцужку паставак тэхналогій, і шэраг буйных тэхналагічных кампаній, у тым ліку Apple і Samsung, звяртаюць увагу на мясцовы рынак, імкнучыся дыверсіфікаваць свае вытворчыя магутнасці, каб мінімізаваць негатыўны ўплыў гандлёвай вайны паміж ЗША і Кітаем. Дадатковы стымул гэтаму надае і той фактар, што дадзеная краіна ў Паўднёва-Усходняй Азіі паспяхова стрымлівае распаўсюджванне каронавіруса».

«Хто хоча (развівацца) — шукае спосабы, хто не хоча — прычыны». У В'етнаме гэты афарызм Сакрата (470–399 гг. да н. э.) узялі на ўзбраенне. Але палітычнай эліце ў зоне лімітрофа з яго спецыфічным светаадчуваннем не да развіцця. На парадку дня ў поўны рост паўстала неабходнасць «пашыраць магчымасці для самарэалізацыі патрыятычна настроеных актыўных грамадзян». Усё правільна. Для тых, хто не жадае стаць чым-небудзь прыдаткам, іншага спосабу затрымацца ў гісторыі няма.

# «Адна ўсмешка можа перавярнуць горы»

**Першую ноч пасля затрымання журналісткі TUT.BY Кацярына Барысевіч правяла адна ў камеры СІЗА КДБ. Ужо тады, кажа, яна разумела: цуду не здарыцца, будзе суд і тэрмін.**

Назаўтра ад бяссілля хацелася плакаць, але Каця сабралася. У пачатку сакавіка паводле ч. 3 арт. 178 КК (раскрыццё медыцынскай таямніцы, што пацягнула цяжкія наступствы) суд прысудзіць Кацярыну да шасці месяцаў пазбаўлення волі і ста базавых штрафу. 19 траўня Каця выйшла на волю. Пра тое, як правесці паўгода за кратамі і захаваць веру ў людзей, чытайце ў матэрыяле TUT.BY.



Фота www.tut.by

## Дом

Ужо тыдзень кватэра Кацярыны Барысевіч нагадвае аранжарэю. Кветкі паўсюль — на сталах, на паліцах і на падлозе. Побач з Кацяй, якая сядзіць у асяроддзі ўсёй гэтай прыгажосці, аб'ёмная скрынка. У ёй каля 750 лістоў. Гэта толькі частка канвертаў, якія даляцелі да яе за шэсць месяцаў за кратамі.

— Пытанне аб тым, што даходзіць не ўсё, людзі ўздымалі. Супрацоўнікі на гэта адказалі: аб'ём карэспандэнцыі такі вялікі — цэнзары не паспяваюць. «Палітвязням ідуць мяшкі лістоў», — апісвае сітуацыю Кацярына і кажа, што ад дачкі Дашы яна атрымала толькі шэсць канвертаў, хоць дзіця пісала ёй у разы больш. — Я ёй за гэты час адправіла сто лістоў, але таксама прыйшло не ўсё.

За гутаркай Кацярына раскладвае перад сабой паштоўкі і фатаграфіі. На іх беларуская прырода, а яшчэ Рым, Сіена, Стакгольм... Любімая выява — здымак з вокнамі бабулінага дома. Яго даслаў блізкі сябар. Гэты дом, кажа журналістка, не раз сніўся ёй за кратамі.

Пра лісты Кацярына, здаецца, гатовая гаварыць бясконца.

## СІЗА КДБ

У першай камеры ў СІЗА КДБ Кацярына правяла адну ноч. Усю гэту ноч яна не спала. Чула, як метро скончыла сваю працу і як раніцай паехалі цягнікі.

— Пасля гэтай незразумелай ночы я вырашыла, што дазволю сабе паплакаць, але раніцай мяне «паднялі» (засялілі. — Заўвага TUT.BY) да студэнтаў. Калі я ўбачыла гэтых 19–20-гадовых дзяўчат, лічы — аднагодкаў маёй дачкі, зразумела: плакаць я не буду. Іх саміх трэба падтрымліваць, — вяртаецца да той сітуацыі журналістка. — У той дзень у іх і ў мяне былі допыты. Мы крыху пагутарылі, а потым стала вядома, што іх пераводзяць на Валадарку. На выпадак, калі да мяне вызначаць нейкіх незразумелых людзей (тады я падумала, што злодзеяў у законе), дзяўчынкі пакінулі мне пакунак печыва — каб я магла ад іх адкупляцца.

З гэтым печывам Кацярына засялілася ў трэцюю камеру. Тут яе сустрэлі з усмешкай дзве вельмі інтэлігентныя дзяўчыны. «Праходзьце, не бойцеся», — гэта былі першыя іх словы. Яны напаілі журналістку гарбатай і прапанавалі паглядзець серыял — у памяшканні стаяў тэлевізар.

— У першую ноч, калі я заехала ў СІЗА КДБ, ведала: адсюль людзі не выходзяць ні праз дзень, ні праз два, ні праз дзесяць. Як бы ні было цяжка, варта было прыняць: выйду я няхутка, таму я адразу стала пытацца, што тут з бібліятэкай, якія ўнутраныя правілы, — дзеліцца сваімі тагачаснымі думкамі суразмоўніца. — На ложку ў новых суседак я заўважыла Жванецкага і Высоцкага, затым яны дасталі яшчэ велізарны пакет выдатных кніг. «Тады жывем», — адказала я.

Напэўна, гэта было найлепшае, што я магла ўявіць сабе ў тых умовах. Праз тыдзень мне паведамілі аб пераводзе на Валадарку. Калі мяне забіралі з дому, супрацоўнікі не дазволілі ўзяць ніякіх рэчаў. Па сутнасці, акрамя джынсаў, кофты і камізэлькі, у мяне нічога не было. Напярэдадні пераезду дзяўчынкі падарылі мне цёплыя калготы, якія саграваў мяне нават у калоніі ў Гомелі, і белую майку з вывай Парыжа. Я яе берагла, і першы раз надзела толькі на суд. Распавядалі, калі на працэсе яе ўбачыў пасол Францыі, ён заплакаў. Для мяне ж яна стала талісманам.

***— Чаму?***

— Калі б ты бачыла, у якіх «адстойніках» я сядзела! А так хацелася дакрануцца да нармальнага жыцця. І майка мне гэта дазволіла, — не хавае эмоцый Кацярына. — Да таго ж, у дзень, калі я была ў ёй, убачыла сваю дачку, брата і іншых блізкіх людзей.

## Валадарка

У СІЗА №1 на Валадарскага Кацярыну перавялі ў канцы лістапада. Тут яна правяла чатыры месяцы. Склад камеры, дзе сядзела журналістка, мяняўся, але некаторыя людзі затрымаліся з ёй надоўга. Сярод іх — выкладчыца БДУІР Вольга Філатчанкава. Тры месяцы ў камеры з Кацяй правяла Ала Шарко з Прэс-клуба, два — Кацярына Андрэева з «Белсату». Былі, працягвае суразмоўца, дзяўчаты, якія сядзелі па арт. 328 КК. Разам яны балбаталі, смяяліся, танцавалі і называлі Алу Шарко «нашым калядным падарункам».

— Яна заехала да нас ноччу 25 снежня, засялілася на другі паверх. Раніцай я заўважыла, як нехта ў шапцы (у камеры было холадна) і ў вялікіх акулярах спускаецца зверху. У мяне дрэнны зрок, але па голасе я зразумела — Ала. Мы сталі абдымацца, хоць да гэтага бачыліся ўсяго раз. Ад адчування, што побач хтосьці з твайго нармальнага жыцця, на душы становіцца цёпла, — дзеліцца перажываннямі Кацярына і кажа, што яны жартавалі: «Ала, як жа табе пашанцавала». На пытанне чаму, тут жа тлумачылі: «Глядзі, у нас ёсць сметанковае масла і згушчонка (за кратамі гэта шык) і ніткі, якімі масла можна нарэзаць. А яшчэ — лішняя пластыкавая бутэлька. Справа ў тым, што на Валадарцы табе не могуць перадаваць ваду, «атаварка» працуе раз на два тыдні, таму запасныя бутэлькі, якія тут і грэлка, і душ, ёсць не заўсёды. Але ў нас адна знайшлася.

## Суд

За кратамі прынята варажыць на тэрмін. Часцей за ўсё так у будучыню зазіраюць тыя, каму пагражае гадоў дзесяць, а то і больш. Спосабы даведацца лёс Кацярына сустракала розныя.

— Жанчыны, напрыклад, палілі і, гледзячы на дым, прыгаворвалі нешта накшталт: «Дым-дымок, пакажы мне тэрмін». З дня на дзень знакі, відома, маглі адрозніваецца, але гэта нікога не бянтэжыла.

Кацярыне варажыць не браліся. Справа, казалі, у цябе нейкая незразумелая, што зрабіла — няясна. Зрэшты, Каця асаблівa і не прасіла. Усё, чаго яны з Арцёмам Сарокіным у першую чаргу чакалі ад суда, — каб працэс зрабілі адкрытым. Суд вырашыў інакш.

***— Як ты адрэагавала на прысуд?***

— Я разумела: будзе пазбаўленне волі, таму, калі суддзя зачытвала вердыкт, я засяродзілася на дачцэ. Некаторыя мяне папракалі, чаму на фота ў дзень пачатку суда і яго заканчэння я ўсміхаюся, — успамінае яна нечаканую прэтэнзію і тут жа на яе адказвае: — Мне было важна, каб Даша разумела: у мамы ўсё някепска, я прыняла гэты прысуд, не звалілася ў дэпрэсію. А яшчэ я ведаю: адна ўсмешка можа перавярнуць горы. Памятаю, як засынала — і ўяўляла ўсмешку Дашы. І таму хацелася, каб у майго дзіцяці таксама захаваліся такія ўспаміны.

Дзяўчаткі ў камеры, пачуўшы ад Кацярыны: «Мне далі паўгода», сталі яе абдымаць, плакалі ад шчасця. Навіна, што хтосьці вызваляецца ці хутка патрапіць дадому, вельмі падымае ўсім настрой, кажа журналістка. Яна радавалася, калі Арцём Сарокін выйшаў з залы суда. «Віншую, хоць хто-небудзь з нас сёння будзе дома», — паспела сказаць яму Каця.

## Жодзіна

Этап з СІЗА №1 у турму №8 у Жодзіне доўжыўся амаль суткі. Прыкладна ў 14.30, успамінае Кацярына, яе перавялі з камеры ў «адстойнік», дзе яна праседзела да дзесяці вечара. Далей аўтазак, чыгуначны вакзал, «сталыпінскі» вагон. Гадзіна дарогі — і зноў аўтазак.

— Калі прыехалі ў турму, нас чакала праверка: супрацоўнікі пераглядалі нашы рэчы і ўсе лісты. Дзесьці а чацвёртай раніцы яны скончылі, і мы зноў апынуліся ў «адстойніку». Там, як і аўтазаках, было вельмі холадна, але ад бяссілля і стомленасці я заснула. У 6.00 — традыцыйны ўздым, і мы працягнулі чакаць. Напэўна, у гэты момант афармлялі нашы дакументы, таму што ў камеру мяне «падняні» толькі бліжэй да абеду — пераходзіць да няпростага перыяду жыцця Кацярына.

У Жодзіне рэакцыя на Кацю была не зусім стандартная. З ТБ-сюжэтаў і газет там ведалі, хто яна, але сукамернікі звярталі ўвагу на іншае. З сабой у яе былі тры вялізныя торбы рэчаў. У іх чай, кава, ежа, садавіна, гароднiна, адзенне — увогуле, багацце па мясцовых мерках нечуванае. Кацярыну тут жа вызначылі ў шэрагі «ўпакаваных». Пра такіх кажуць: «У цябе ўсё ёсць, чаго табе не сядзецца?»

Павагу, успамінае журналістка, у сукамерніц выклікала і тое, што яна шмат пісала і чытала, а яшчэ называла ўсіх на вы. Аднойчы па гэтай нагоды адбыўся смешны дыялог. «А вось вы ўсё на вы і на вы, гэта што значыць?» — падышла да Кацярыны яна з сукамерніц. «Гэта значыць, я вас паважаю», — адказала журналістка. «Ну, разумееце, гэта так незвычайна, — сур'ёзна працягнула суразмоўніца. — У нашай кампаніі прынята ты і “малыха”. А вы, падобна, вы. Ад такіх слоў хочацца расправіць плечы і самой выкаць».

## Этап у Гомель

За шэсць месяцаў Кацярына пабывала ў пяці ўстановах ДВП і 11 камерах. Апошнім пунктам у яе маршруце стала жаночая калонія ў Гомелі. У камерах розных устаноў яна сустракала мышэй, прусакоў і вошай. Але нават у такіх умовах не забывала быць прыгожай.

— У любой сітуацыі жанчына павінна заставацца жанчынай. Родныя перадавалі мне касметычныя маскі, скрабы — і мы ладзілі «спа-салоны», — усміхаецца Кацярына. — У Жодзіне сродкі па доглядзе за тварам не прымалі, але тут прыдаліся веды ад Алы Шарко: яна навучыла нас рабіць маскі з аўсянкі. Замест патчаў я выкарыстала лісце зялёнай гарбаты.

Сукамерніцы адразу з журналісткі пасмейваліся. Потым пацікавіліся: «А колькі табе гадоў?» — «37», — адказала Каця. «Ну не выглядаеш на стольки, вядома», — пачула рэпарцёр у адказ. «Можа, яшчэ не п'еш?» — было наступнае пытанне. «І не п'ю, і не палю», — працягнула Кацярына. «Напэўна, маскі ўсё ж такі дапамагаюць», — зрабілі выснову жанчыны і таксама сталі «накладваць» на твар аўсянку і лісце зялёнай гарбаты.

— Часам было смешна: у камеры адразу тры-чатыры чалавекі сядзелі з лісцем пад вачыма — усміхаецца суразмоўца, і мы зноў вяртаемся да калоніі. Тут журналістка даведалася, што сайт TUT.BY заблакавалі і значную частку супрацоўнікаў адправілі за краты. Здарылася гэта за дзень да выхаду Кацярыны на волю.

— У нармальным жыцці мы з калегамі павінны былі сустрэцца ў офісе, я хацела ўсіх абняць і сказаць дзякуй. Я ганаруся нашай камандай, — не хавае эмоцый Кацярына. — Але ў суботу я паехала на пошту і падпісала ім у СІЗА паштоўкі і тэлеграмы. Журналісты не павінны сядзець за сваю працу.

***— Як твае родныя перанеслі гэтыя паўгода?***

— Днямі мы з дачкой глядзелі перапіску, якую яна вяла са мной у адзін бок у тэлеграм. І я звярнула ўвагу, што паведамленні яна пісала і ў дзве, і ў тры гадзіны ночы. Гэта значыць, я не спала — і маё дзіця таксама не спала. Так, побач з ёй знаходзілася шмат добрых людзей, але ніхто не заменіць маму. Цяпер мы нямала гаворым пра тое, што адбывалася і адбываецца, і, здаецца, яшчэ доўга будзем гэта абмяркоўваць. Я на паўгода выпала з яе жыцця, і гэтых час нам ніхто не верне.

***— А як твае бацькі?***

— 19 траўня, калі я вярнулася дадому, я глядзела на іх і бачыла новы від шчасця. Шчасце, калі людзі рады, што іх дзіця на волі.

***— І філасофскае пытанне: што ты зразумела за шэсць месяцаў за кратамі?***

— Зразумела, што ўсё можа скончыцца ў адзін дзень: ты выйшаў у краму — і апынуўся ў СІЗА. Таму, як бы банальна ні гучала, але чым больш мы атрымліваем задавальнення ад жыцця і знаходзімся побач з блізкімі, тым лепш.

**Друкуецца ў скароце, пераклад НЧ**

# «Людзі, якія выпраменьваюць

Дзіяна СЕРАДЗЮК



Фота Дзмітрыя Дзмітрыева

**У сакавіку Галіна Гулянкова адседзела 20 сутак на Акрэсціна за тое, што чытала ў электрычцы кнігу Васіля Быкава. Дагэтуль жанчына ўжо адбывала 7 сутак, а агулам за час паслявыбарчых пратэстаў яе затрымлівалі чатыры разы. Спадарыні Галіне аперавалі рак, яна назіраецца ў дактароў і пастаянна прымае лекі. Але нягледзячы на рэпрэсіі і стан здароўя пенсіянерка (шчыра кажучы, язык не паварочваецца так называць гэтую элегантную і жыццярадасную жанчыну) працягвае насіць белае з чырвоным, ходзіць на судовыя пасяджэнні і не сумняваецца, што перамога абавязкова будзе.**

## «З прыходам Лукашэнкі не адчула розніцы паміж савецкім ладам і дэмакратыяй»

Галіна Гулянкова не пагаджаецца з тым, што пенсіянеры заўжды былі лаяльныя да Лукашэнкі.

— Даволі даўно існавала пэўная група пенсіянераў, якіх не задавальняла гэтая ўлада. Проста аб'яднацца яны ніяк не маглі. А цяпер гэта адбылося дзякуючы найперш інтэрнэту і нашым лідарам — тая ж Ніна Багінская, Ян Грыб. Пры гэтым у нас вельмі розныя катэгоры пенсіянераў: і прафесары, і прыбіральшчыцы, і працоўныя — уяўляеце, які пласт людзей? Нас 5 000 чалавек у нашым пенсіянерскім чаце.

Спадарыня Галіна нарадзілася ў Мінску, але ў 3-гадовым узросце з'ехала, паколькі тата быў вайсковец. Вярнулася ў Беларусь яна ў 24 гады. Галіна з маладосці зразумела, што савецкая сістэма нічога добрага не нясе, бо там усё трымалася на страху. Яна ўзгадвае, як аднойчы ёй не дазволілі выйсці замуж за фіна.

— Мы пазнаёміліся ў 1981 годзе, тата тады служыў у Будапешце, займаў высокую пасаду, муж сястры з'ехаў працаваць на сяміпалацінскі палігон на сакрэтную працу. Мяне папярэдзілі, што фіны — гэта нашы страшныя ворагі, а паколькі я ведаю замежную мову, то магу стасавацца са шпіёнамі. Таму, калі я выйду замуж за фіна, страцяць працу і бацька, і муж сястры. Давялося адмовіцца ад сустрэч і замужжа. А ў маёй сяброўкі бацька служыў у КДБ. І ёй забаранілі са мной камунікаваць.

Галіна Гулянкова зазначае, што з прыходам Аляксандра Лукашэнкі яна не адчула розніцы паміж савецкім ладам і дэмакратыяй. Адзінае, у крамах сталі прадавацца прадукты, якіх раней не было.

— Я працавала на «Гарызонце», у нас заўжды былі разнарадкі, колькі ад кожнага аддзелу пойдзе людзей на дэманстрацыю. Нам давалі за іх прэміі альбо адгулы — гэта было пры савецкай уладзе і пазней. Гэта было так сорамна! Разумееце, цяпер мы ходзім самі (на акцыі пратэсту і салідарнасці. — НЧ), нам за гэта ніхто не плаціць, гэта покліч душы, і гэта так радасна!

За палітычнай сітуацыяй спадарыня Галіна таксама пачала сачыць і нават удзельнічаць у ёй задоўга да 2020-га. Так, у 2010 годзе яна ўваходзіла ў штаб кандыдата ў прэзідэнты Уладзіміра Някляева.

— Я разумела, што ён не пераможа, але ён хоць нешта спрабаваў рабіць. Як кажуць, лепш зрабіць хоць маленькае нешта, чым вялікае нішто.

## Не выходзіць з дому без лекаў, зубной шчоткі і пасты

Выходзячы на пратэсты, Галіна была гатовая да таго, што яна можа сутыкнуцца з рэпрэсіямі. Першым з арыштам сутыкнуўся яе сын, які 29 жніўня набыў у глуханямога бел-чырвона-белы сцяжок і проста паклаў яго ў кішэню. Але да яго падышлі пяцёра сілавікоў і забралі на 5 сутак, 4 з якіх ён адбыў на Акрэсціна і суткі — у Жодзіна.

— Першы раз, калі мяне ўзялі, быў самы страшны. Гэта быў жаночы марш 19 верасня. Нас адмыслова туды завялі, да «Айсберга» на Сурганава, хаця мы збіраліся ісці да Камароўкі. Але чамусьці павярнулі туды. А там — ужо аўтазакі. Адной дзяўчыне сказалі, што, калі яна не пойдзе, зламаюць руку, — узгадвае жанчына. — Мы ехалі ў аўтазаку і падтрымлівалі адна адну, асабліва жанчыны ва ўзросце. Многія дзяўчаты плакалі, бо ў памяці яшчэ былі жывыя сведчанні, як збівалі і катавалі ў аўтазаках. А потым нас прывезлі ў Заводскае РУУС, і там быў яшчэ адзін аўтазак. І мы, як у час вайны, крычалі адна адной цераз кратаваныя вокны: «Дзяўчаты, трымайцеся, мы з вамі, усё будзе добра!» Потым нас перавялі ў іншыя аўтазакі, дзе былі «стаканы». Мы ехалі ўчатырох у адным «стакане», разлічаным на двух чалавек.

Жанчын прывезлі ў Цэнтральнае РУУС, спадарыня Галіна зазначае, што там да затрыманых ставіліся карэктна. Таму яна не верыць, што Рамана Бандарэнку забілі там. Увечары Галіну Гулянкову выпусцілі без складання пратакола.

Але з тых часоў жанчына не выходзіць з дому без неабходных лекаў і зубной шчоткі з пастай. Нават на інтэрв'ю яна прыйшла з «трывожным наборам».

Другі раз Галіну затрымалі літаральна праз тыдзень, і тады ёй прысудзілі 20 базавых штрафу.

Трэцяе затрыманне адбылося 23 снежня, калі жанчыны сталага веку сабраліся ля Камароўскага рынку са сцягамі і транспарантамі і пайшлі маршам з патрабаваннем новых выбараў — бо напярэдадні Лукашэнка «паабяцаў», што яны будуць. Галіна Гулянкова трымала вялікі сцяг. Па яе словах, чалавек, якому давалі па рацыі ўказанне затрымліваць, адказваў свайму камандаванню, што ўжо ўсе разыходзяцца — і браць няма каго. Але Галіну ў выніку давялося затрымаць, бо яна была са сцягам. Паколькі жанчыну да гэтага затрымлівалі ўжо двойчы, гэтым разам ёй прысудзілі 7 сутак арышту.

Наступнае затрыманне ў электрычцы з томікам Быкава, якім жанчына захапляецца і лічыць яго пракорам беларускага народа, скончылася ўжо 20-сутачным арыштам. Па словах суразмоўцы, яе абурыла не столькі затрыманне за чытанне беларускамоўнай кнігі і нават не сам тэрмін, які ёй прысудзілі, а тое, што «мы цяпер зусім бяспраўныя».

— На станцыі да мяне падышоў «рыбак», але ў яго была вельмі характэрная знешнасць. І ён мне кажа: «Пройдземце». Я не стала нават запытваць дакументы, бо зразумела, хто гэта, і прайшла ў бус. Але калі на судзе міліцыянер, якога я ўпершыню ўбачыла ў Партызанскім РУУСе, сцвярджаў, што яны мяне цягнулі ўдваіх, а я ўпіралася і аказвала супраціў, я прапанавала суддзі паглядзець запісы з відэакамер. Суддзя сказаў, што гэта неістотна, і я зразумела, што мы ўсе ў такім становішчы — той жа Бабарыка, які нічога не здзяйсняў, той жа Севярынец, тыя ж рабяты, якія прыходзілі на пачатак працэсаў, і іх затрымалі. Мы ж нічога такога не зрабілі, каб здрадзіць Радзіме! Разумееце, нас жа вучылі не ілгаць. Я не ўяўляю, чаму гэта адбываецца, і чаму міліцыянты ўвайшло ў норму. Я гэтаму міліцыянту так і сказала: «Як вы спіце? Гэта ж ілжэсведчанне!»

> **«Я не магу здрадзіць тым, хто загінуў і хто бязвінна сядзіць у турмах. Я сядзела ў турме, але я ведала, што я выйду. Але калі я ведаю, што людзям даюць такія дзікія тэрміны, у якіх яны ўмовах утрымліваюцца — гэта дае мне моцы»**



# любоў, не могуць не перамагчы»

### Лічылі дні і ночы да вызвалення — «як у гатэлі»

Спадарыня Галіна гаворыць, што перажыць 20 сутак у зняволенні для яе аказалася не так складана — найперш дзякуючы кампаніі ў камеры.

— Такія цудоўныя людзі, цвет нацыі! Я да сёй пары падтрымліваю з імі стасункі, мы сябруем, і я атрымліваю ад гэтага задавальненне, — распавядае Галіна Гулянкова пра сукамерніц. Да слова, у камеры на 6 месцаў было 11 жанчын, 66-гадовая спадарыня Галіна была найстарэйшай.

Суразмоўца распавядае пра ізалятар так, што на хвіліну можа скласціся ўражанне, нібыта там — казка на яве. Але насамрэч проста гэтая жанчына сама выпраменьвае святло і любоў, і ва ўсіх жыццёвых абставінах стараецца знаходзіць нешта добрае. І знаходзіць — нават у турме.

— Наверсе ляжала жанчына ў такім прыгожым белым паўшубку, — працягвае апавядаць пра сукамерніц спадарыня Галіна. — Яны разам з мужам ставілі подпісы пад зваротам да свайго дэпутата аб тым, што трэба зрабіць у іх акрузе. Прыехаў бус і іх забраў: яна аказалася ў адной камеры, муж — у суседняй. На 8 Сакавіка ён намаляваў і даслаў ёй паштоўку. У іх прозвішча Зайцавы, і ён намаляваў такога прыгожага зайца з морквай і напісаў: «Зайцы заўжды побач».

Прыводзілі ў камеру і жанчын, якіх этапавалі ў ЛПП, яны вельмі дзівіліся, што ў «палітычных» не было падушак, матрацаў і пасцельнай бялізны. А яшчэ дзівіліся таму, што з імі дзяліліся ўсім тым, што перадавалі ў перадачах.

— Калі цвярозыя — гэта нармальныя жанчыны, з імі можна размаўляць. Яны распавядалі, якія жахлівыя ўмовы ў ЛПП. Адна жанчына сказала, што ў мінулы раз яна 8 месяцаў разам з іншымі жанчынамі грузіла бярвенні, гэта было вельмі цяжка.

Тады, у сакавіку, жанчынам яшчэ даходзілі некаторыя лісты, можна было чытаць, разгадваць крыжаванкі. Гэтым, а таксама пастаяннай прыборкай у камеры ды раўнюткім складаннем «бакалей» з перадач на паліцах і бавілі час. А потым — «як у гатэлі» — лічылі, колькі дзён і начэй засталося да вызвалення.

— Самае жахлівае — што ты замкнёны ў гэтай прасторы. Нас не выводзілі на вуліцу. Але чалавечы арганізм прывыкае да ўсяго. Нядаўна мы з сястрой ляцелі адпачываць, і ў нас быў вельмі нязручны рэйс: давялося ноччу 7 гадзін прасядзець у аэрапорце. Я лягла на крэсле (а на Акрэсціна я спала на падлозе), накрылася курткай і заснула. А сястра здолела толькі 20 хвілін паспаць.

### «Тэлефануюць і кажуць — "расстраляйце", "забярыце", "знішчыце"»

Як мы прыйшлі да таго, што той жах, у якім жыве беларускае грамадства апошні год, стаў нормай? Галіна Гулянкова мяркуе, што сярод сілавікоў гэта было нормай заўжды, проста людзі пра гэта не ведалі і не адчувалі так моцна на сабе.

На думку спадарыні Галіны, заўжды існавала і працягвае існаваць частка людзей, якія не лічаць здзек, здраду, прыніжэнне і нават забойства ненармальным.

— Я з жахам узгадваю часы рэпрэсій. У мяне дзядуля па кудзелі быў рэпрэсаваны. А дзядуля па мячы паходзіў з Заходняй Беларусі, ніводнага сваяка з яго боку не засталося ў жывых, — гаворыць Галіна Гулянкова. — Мой дзед па маці, Грыцан Фёдар Яўгенавіч, быў узнагароджаны імяннай шашкай ад Будзёнага. Ён быў камуністам, вераў у бальшавізм, у яго было чацвёра дзяцей. Але ў 1934 годзе па яго прыйшлі. Арыштавалі... Пазней мы даведаліся, што вельмі доўга катавалі, але ён не зламаўся — не паставіў ніводнага подпісу, не назваў ніводнага прозвішча. Таму яму не змаглі паставіць у віну ўдзел у злачыннай групе, далі 10 гадоў і адправілі будаваць Волга-Балт. Колькі людзей там загінула! Бо індустрыялізацыя адбывалася за кошт бясплатнай рабскай сілы. Я да сёй пары не магу Сталіну гэтага дараваць.

Засталіся дзве сястры, бабуля памерла. Як дзеці ворага народа, яны не маглі хадзіць у школу, іх адзенне рвалі, выкідвалі. Але ж нехта данёс? Значыць, такія людзі былі, яны і цяпер ёсць, і гэта ўхваляецца, — зазначае суразмоўца.

А вось яшчэ адна сямейная гісторыя спадарыні Галіны: яе тата, які ўсё жыццё марыў быць вайскоўцам, даслужыўшыся да звання капітана, аднойчы быў выкліканы ў асобы аддзел і атрымаў прапанову даносіць на таварышаў. Ён адмовіўся, і амаль 10 гадоў заставаўся капітанам, хаця многія за гэты час паспелі прасунуцца па кар'ернай лесвіцы. Але ў выніку бацька ўсё роўна здолеў сысці з войска ў званні палкоўніка і пры гэтым не запляміць свой гонар.

— Ён дажыў да 90 гадоў. Дарэчы, як толькі ён бачыў па тэлебачанні Лукашэнку, адразу пераключаў — ён яго не прымаў, — зазначае Галіна Гулянкова.

І ў той жа час — нядаўні прыклад, калі падчас аднаго з восеньскіх маршаў пратэстоўцы пабеглі хавацца ад сілавікоў у пад'езд, але адтуль выйшла бабулька і «здала» ўсіх 25 чалавек.

— Колькі ні запытвалася сярод «нашых», ці змаглі б яны так паступіць з адносінах да «ябацек», — усе гавораць, што не, — дзеліцца жанчына. — Міліцыянт, які ў снежні прыходзіў да мяне на «гутарку», бо яму трэба было «адрэагаваць», казаў: «Вы не ўяўляеце: нам тэлефануюць і такія рэчы кажуць — "расстраляйце", "забярыце", "знішчыце"». Як правіла, так робяць людзі неадукаваныя альбо хворыя. Бо калі ты сваю пазіцыю адстойваеш, гэта трэба рабіць з гонарам. Нармальныя людзі разумеюць, што ў краіне адбываюцца падзеі, для якіх прыйшоў час.

— Мне здаецца, што людзі, якія выпраменьваюць любоў, не могуць не перамагчы. Любоў і дабрыня ратуюць свет. Не пакаранні, не забойствы, а любоў, — пераканаая спадарыня Галіна.

Яна распавядае, што бацькі ніколі не білі яе, не прыніжалі, жылі ў любові, таму яна не разумее, як можна здзекавацца з людзей, і не прымае гвалту.



Суразмоўца ўзгадвае эпізод, калі яна сядзела на Акрэсціна, усім прынеслі перадачы, а ёй — не. І ноччу яна плакала, думаючы, што здарылася, калі дзеці нічога ёй не перадалі. Але а сёмай раніцы нечакана ахоўнік выклікаў яе і перадаў перадачу — аказваецца, яе чамусьці адразу прынеслі ў ЦІП, хаця жанчына сядзела ў ІЧУ.

— І ў мяне так шчыра і адвольна вырвалася: «Дзякуй вам, які вы добры чалавек!» Гэты ахоўнік так збянтэжыўся, а потым усё запытваўся: дзяўчаты, можа, вам дабаўкі? Ці ёсць у вас асадкі? Такі клопат — толькі за тое, што яму сказалі, што ён добры чалавек. Я лічу, што сярод іх шмат недалюбленых, я чула, як іх прыніжае кіраўніцтва. При мне прыніжалі іншага чалавека — і мне было непрыемна, я не магу гэтага пераносіць. Нельга прыніжаць людзей. Але што мы бачым з экранаў тэлевізараў?..

### «Я не магу дараваць сабе, што забілі нашых рабят»

Апроч любові Галіне Гулянковай надае моцы яшчэ адна рэч: жанчына кажа, што не можа здрадзіць тым, хто загінуў і тым, хто сядзіць у турмах.

— Я не магу здрадзіць тым, хто загінуў і хто бязвінна сядзіць у турмах. Я сядзела ў турме, але ў мяне было святло напрыканцы тунеля, я ведала, што я выйду. Але калі я ведаю, што людзям даюць такія дзікія тэрміны, у якіх яны ўмовах утрымліваюцца — гэта дае мне моцы, бо я нясу за іх адказнасць.

Я не магу дараваць сабе, што забілі нашых рабят, і мы яшчэ не ведаем, колькі насамрэч. Я кладуся спаць з думкамі пра гэта — што людзей няма, і як мы можам здрадзіць іх памяці? Я думаю, што калі я супакоюся, я буду пакутаваць, калі буду паміраць, — працягвае жанчына. — Рому Бандарэнку было столькі ж гадоў, колькі майму малодшаму сыну. Я не падзяляю дзяцей на сваіх і чужых. Калі я ўяўляю, якія пакуты пераносілі гэтыя хлопцы, у мяне ўнутры ўсё сціскаецца. Я не магу атрымліваць асалоду, ежа мне нясмачная. Я схуднела на сем кілаграмаў.

Жанчына прызнаецца, што не можа зразумець адну рэч: у чыноўнікаў ёсць дзеці, але чаму ў іх разуменні іх дзеці — гэта дарунак, які трэба берагчы, а з астатніх дзяцей можна здзекавацца?

— У мяне перад вачыма дзяўчына, якая пабыла з намі ў камеры літаральна паўгадзіны, Насця. У яе нехта сядзеў на Валадарцы, і ў дзень, калі яе затрымалі, павінен быў быць суд. Насця перажывала, што яе сябра на судзе яе не пабачыць. Яна паспрабавала напісаць яму запіску, каб перадаць праз таго, хто выходзіў, але там жа паўсюль камеры, гэта ўбачылі і не далі ёй гэтага зрабіць. А потым яе перавялі ў карцар, дзе яна правяла 8 сутак, — з болем узгадвае суразмоўца.

### Трэба працягваць быць салідарнымі

Нягледзячы ні на што ў жанчыны не згасае вера, што дабро перамагае. За сваё жыццё яна не раз пераканалася: любому чалавеку, які паступае супраць сумлення, гэта вяртаецца.

Спадарыня Галіна лічыць, што нам варта працягваць быць салідарнымі: падтрымліваць палітвязняў, пісаць ім, пераводзіць грошы, хадзіць на суды. Яна на сабе зведала, наколькі важная падтрымка ад знаёмых і незнаёмых людзей. Яшчэ калі затрымалі яе сына, на дапамогу прыйшлі валанцёры. Потым, сама знаходзячыся ў зняволенні, спадарыня Галіна змагла атрымаць некаторыя лісты ад тых, хто яе падтрымліваў, хоць далёка не ўсе. Затое калі жанчына вярнулася дадому, яе паштовая скрыня была літаральна заваленая лістамі салідарнасці, у тым ліку з-за мяжы. На жаль, некаторыя з іх былі ўскрытыя па патрабаванні мытні, і пры гэтым мытнікі пашкодзілі месцы, дзе былі напісаныя зваротныя адрасы. Таму некаторым адрасатам жанчына не змагла даслаць адказы.

Сама спадарыня Галіна таксама ўдзельнічае ў розных кампаніях салідарнасці. Сярод іншага, жанчына рэгулярна наведвае працэс над Віктарам Бабарыкам. Яна гаворыць, што пакуль там прысутнічаць досыць цяжка, бо на пасяджэннях зачытваюць пералік усяго, што рабіў банк.

— Але Віктар Дзмітрыевіч вельмі сабраны, вельмі прыязны, ён нам усміхаецца, мы паказваем яму сэрцайкі. Ён не зламаны. У мяне няма адчування адчаю ад працэсу, бо я ведаю, што гэта ўсё — няпраўда.

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### РАСІЯ. Не больш за пляшку ў адны рукі!

У Расіі прапанавалі ўвесці норму пакупкі алкаголю на аднаго грамадзяніна. З такой ідэяй выступіў сябар Грамадскай палаты Расіі і кіраўнік федэральнага праекта «Цвярозая Расія» Султан Хамзаеў.

Паводле яго слоў, грунтуючыся на нормах, вынайдзеных медыкамі, неабходна вызначыць дапушчальны літраж, які расіянін можа купіць за адзін дзень. «У Сусветнай арганізацыі аховы здароўя ёсць дакладнае вызначэнне, што звыш, напрыклад, пяці-шасці літраў алкаголю ў год на душу насельніцтва — гэта ўжо выміранне», — лічыць актывіст. З гэтай лічбы і трэба, па яго словах, вылічваць дзённую дозу алкаголю.

Таксама Хамзаеў прапанаваў шэраг мер, якія, на яго погляд, дазволяць скараціць аб'ёмы кантрафактнага алкаголю. У прыватнасці, гэта стварэнне спецыялізаваных крам у населеных пунктах і поўная дзяржаўная манаполія на продаж спіртнога накшталт таго, як гэта зроблена ў Швецыі. Рэакцыя грамадскасці на ініцыятыву была прадказальная. Форумы мільгаюць допісамі кшталту: «Пяць-шэсць літраў — мне столькі на месяц не хопіць!»

**Паводле расійскай прэсы**

### ШВЕЙЦАРЫЯ. Каранцін — гэта дыктатура?

Ад 13 чэрвеня Швейцарыя стане першай краінай у свеце, якая правядзе рэферэндум адносна права ўрада накладаць абмежаванні на грамадзянаў падчас пандэміі.

Нагадаем, што ў верасні мінулага года мясцовы парламент надаў ураду падобныя паўнамоцтвы, якія апазіцыя параўнала з законамі часоў Гітлера. Асноўным аргументам на карысць такога параўнання з'яўляецца тое, што падчас пандэміі ўрад можа прымаць законы без санкцыі парламента, выбары могуць быць перанесеныя, а правы на сходы грамадзян абмежаванае. Чым не гітлераўская дыктатура?

Нязгодныя з такім падыходам лічаць асцярогі наконт дыктатуры ў Швейцарыі, дзе існуе моцная грамадзянская супольнасць, абсурдам. Так ці інакш, у выпадку, калі праціўнікі каранціну пераможуць на рэферэндуме, у многіх еўрапейскіх краінах могуць паўстаць падобныя заканадаўчыя праекты.

**Паводле брытанскай прэсы**

### УКРАІНА. Махно не вернецца ва Украіну

Парэшткі Нестара Махно — славутага ўкраінскага анархіста, — здаецца, ніколі не вернуцца на радзіму. Ён пахаваны на парыжскіх могілках Пер-Ляшэз у 1934 годзе.

У яго роднай Украіне даўно гучаць заклікі рэпатрыяцыі парэшткаў знакамітага земляка. Апошні раз з такой ідэяй выступіў губернатар Запарожскай вобласці. Ён нават называў канкрэтную дату вяртання Махно. Аднак цяпер, падобна, пра такія планы давядзецца забыцца. Дырэктар Гуляйпольскага краязнаўчага музея распавяла, што месца для праху Махно ў парыжскім калумбарыі доўга аплачвалі французскія анархісты. У нейкі момант у іх скончыліся грошы — і сапраўды ўзнікла магчымасць вывесці прах атамана. Аднак у гэты момант нечакана з'явіўся таямнічы расіянін, які праплаціў месца ў калумбарыі на 50 гадоў наперад, да 2034-га. Ён юрыдычна дамогся, каб парэшткі Махно заставаліся ў Парыжы назаўжды.

Цікава, што ўкраінскія анархісты віталі гэтыя навіны. Цяперашнія махноўцы, як высвятляецца, баяцца, што перапахаванне Махно будзе выкарыстана ўладай як банальны піяр.

**Паводле ўкраінскай прэсы**

### ІСПАНІЯ. Непаліткарэктныя маркі




Фота www.travelnoire.com

Іспанскі аналаг нашай Белпошты вырашыў не на жарт змагацца з расізмам. З гэтай мэтай паштовая служба выпусціла серыю тэматычных марак. Аднак у выніку акцыю не ўхвалілі. Больш за тое, узніклі падазрэнні наконт прысутнасці ў паштовай установе латэнтных расістаў.

Усё з-за асаблівасцяў згаданай серыі марак. Яна ўяўляе сабой набор марак рознага колеру. Прычым, чым цямнейшы колер маркі, тым меншы яе кошт. Самая танная марка, адпаведна, чорнага колеру. Такім чынам, маркі, паводле задумы супрацоўнікаў пошты, павінны былі стаць адлюстраваннем няроўнасці, якую стварыў расізм.

Аднак публіка ўспрыняла ўсё зусім інакш. Танныя маркі цёмнага колеру палічылі намёкам на тое, што людзі, у якіх не белая скура, нічога не вартыя. Цяпер паштовы офіс адбіваецца ад крытыкаў і думае, якую марку надрукаваць, каб хоць часткова рэабілітавацца.

**Паводле брытанскай прэсы**

# Спасцігла ўсенароднае гора...

Алег НОВІКАЎ

**Абвешчаная ў Туркменістане ўсенародная жалоба з-за смерці бацькі прэзідэнта — нагода ўзгадаць пра дэбаты навукоўцаў і палітолагаў наконт здольнасці сучасных дыктатараў штучна навязваць эмоцыі.**




Фота www.rus.azathabar.com

Нагадаем, што бацька туркменскага прэзідэнта памёр 18 траўня ва ўзросце 88 гадоў. Няма сумневаў, што для блізкіх сваякоў і сына гэта быў моцны псіхалагічны ўдар. Сам Гурбангулы Бердымухамедаў на працягу сямі дзён не з'яўляўся на публіцы і дзяржаўным тэлебачанні. Нацыянальны дзень туркменскага скакуна і сабакі алабая — вельмі важныя дзяржаўныя святы, — адзначылі без яго. Правядзеннем урачыстых мерапрыемстваў і святочнымі цырымоніямі кіраваў ды прымаў падарункі сын прэзідэнта Сердар.

Аднак, як часта бывае пры дыктатурах, асабістае гора лідара краіны вырашана было зрабіць усенародным. Перш за ўсё ў Туркменістане была абвешчаная ўсенародная жалоба. Адначасова, калі верыць некаторым СМІ, выказваць спачуванне сям'і прэзідэнта абавязалі ўсіх туркменаў. Напрыклад, мужчын абавязалі насіць нацыянальныя цюбецейкі.

Адначасова на месцах была ўведзена часовая забарона на правядзенне вясельных цырымоній. Акрамя таго, у Марыйскім і Лябапскім велаятах з бюджэтных работнікаў збіралі грошы для правядзення памінальных цырымоній з нагоды смерці бацькі прэзідэнта.

Тое, што адбываецца ў Туркменістане, прымушае ўзгадаць цікавыя дэбаты наконт здольнасці дыктатуры кантраляваць эмоцыі і ў тым ліку выклікаць у людзей пачуццё смутку.

Найбольш маштабна гэта з'ява фіксуецца цяпер у Паўночнай Карэі. Тут пасля смерці Кім Ір Сена (1994) або Кім Чэн Ына (2011) дэманстрацыя гора была вельмі шчырай і надзвычай распаўсюджанай. Людзі галасілі і біліся ў істэрыцы проста на вуліцах, не разыходзіліся амаль усю ноч. «Як ты мог нас пакінуць!» — крычалі яны. Нават вядучыя на цэнтральных каналах ледзь стрымлівалі слёзы, што сведчыла пра глыбокія асабістыя пачуцці.

Няўжо сапраўды людзі могуць так горача сумаваць з-за дыктатара-нябожчыка? Наколькі гэтыя праявы ўсеагульнай народнай любові шчырыя, а наколькі — арганізаваныя дзяржаўнай прапагандысцкай машынай?

Адзінага ўніверсальнага адказу няма. У тым ліку таму, што існуюць вельмі моцныя культурныя і псіхалагічныя дыстанцыі паміж заходнім і ўсходнім чалавекам. Не кажучы пра тое, што паўночныя карэйцы маюць спецыфічны псіхатып, таму што жывуць у інфармацыйнай ізаляцыі. Таму не выключана, што праз індактрынацыю многія з іх сапраўды адчуваюць адданасць Вялікаму Правадыру.

Да гэтай думкі схіляюцца шмат экспертаў. Напрыклад, Кэры Браўн, кіраўнік азіяцкай праграмы ў Chatham House. На яго думку, істэрыка з нагоды смерці таго ж Кім Чэн Іра была натуральнай рэакцыяй, бо інфармацыя пра смерць лідара выклікае ў паўночных карэйцаў пытанні аб іх ідэнтычнасці, іх бяспецы і іх здольнасці выжыць.

Паводле слоў Браўна, паўночныя карэйцы — гэта нацыя, якая адчувае, што заўсёды знаходзіцца ў стане вайны, і пра яе клапоціцца іх добры лідар. Як кажа эксперт: «Ім увесь час казалі, што яны штодзень падвяргаюцца атакам у пастаяннай вайне з ЗША, і вялікія перамогі мінулага былі абумоўлены моцным кіраўніцтвам. Як вынік, страта лідара ў такой мадэлі ўспрыняцця свету вельмі адчувальная».

Некаторыя дапускаюць, што калектыўная істэрыка магчымая праз індывідуальны страх — не выглядаць белай варонай на фоне іншых. Чалавек думае наступным чынам — у кагосьці абавязкова ўзнікне думка наконт яго палітычнай лаяльнасці, калі не енчыць разам з астатнімі: «На каго ж ты нас пакінуў!» «Магчыма, гэтыя людзі хваляваліся за свой лёс і баяліся рэпрэсій, калі б адмовіліся сумаваць публічна», — мяркуе адзін з заходніх палітолагаў.

Ёсць думка, што дэманстрацыя смутку па загадзе ўлады можа мець нават характар кар'ернага спаборніцтва. Пра гэта піша ў сваёй кнізе «Нічога страшнага: звычайнае жыццё ў Паўночнай Карэі» брытанская журналістка Барбара Дэмік. Яна наведала Паўночную Карэю, калі адбывалася пахаванне Кім Ір Сена — і стала сведкай выбуху таго самага калектыўнага смутку. Назіраючы за нейкім студэнтам на вуліцах сталіцы КНДР, які па нейкіх фізіялагічных прычынах не мог плакаць, яна адчула прысмак фармальнага рытуалу.

«Тэатральная карціна гора яўна набыла канкурэнтны характар. Хто можа плакаць гучней за ўсіх? Гэта разумеў і той студэнт. Цяпер уся яго будучыня залежала ад яго здольнасці плакаць. На карту была пастаўлена не толькі яго кар'ера і сяброўства ў Партыі Працы (паўночнакарэйскі варыянт савецкага КПСС), але і само яго выжыванне. Гэта было пытанне жыцця і смерці», — піша Дэмік. У выніку, як гаворыцца ў кнізе, студэнт прыдумаў выйсце. Юнак доўгі час трымаў павекі вачэй шырока адкрытымі, пакуль яны не пачалі слязіцца. Як толькі з'явіліся слёзы, ён пачаў галасіць, як і ўсе астатнія.

І самая правакацыйная тэорыя грунтуецца на тэзісе, што псіхалагічна кожны індывідуум вельмі лёгка трапляе пад уплыў настрою калектыву. Гэта, дарэчы, мы можам назіраць паўсюль. Нават на Захадзе былі эпізоды, калі людзі адчувалі неабходнасць выяўляць тыя ж эмоцыі, што і іншыя. Напрыклад, пасля смерці прынцэсы Дзіяны некаторыя людзі баяліся не згаджацца з масавым горам, якое панавала навокал. Праўда, усе прызнаюць, што тут ёсць велізарная розніца з дыктатурай — у плане арганізацыі прымусу.

Тэма штучнага смутку пры дыктатурах — спрэчнае пытанне. Аднак, падаецца, постсавецкаму рэгіёну гэтая з'ява не пагражае. Нават у вельмі аўтарытарным Туркменістане вялікага энтузіязму наконт абвешчанай жалобы не назіралася. Чыноўнікам, якія ігнаравалі цыркуляры наконт цюбецеек, давялося нават пагражаць звальненнямі.



Фота www.aa.com.tr

# Забіць дзеля прэміі

Алег НОВІКАЎ

**Калумбія перажывае сапраўдны народны бунт. Неверагодны цяперашні градус гвалту наўпрост звязваюць з нежаданнем уладаў расследаваць нядаўнія факты забойстваў сілавікамі цывільных асобаў для атрымання грашовых прэмій і дзеля кар'ернага росту.**

Як трапна заўважыў Алег Ясінскі, вядомы спецыяліст па Лацінскай Амерыцы, Калумбія — унікальная краіна. Напэўна, гэта ледзь не адзіная краіна на кантыненце, якая за ўсю сваю гісторыю не ведала вопыту дыктатуры і знешне заўсёды жыла паводле Канстытуцыі. Між тым, здараліся ў Калумбіі дні, калі сілавікі забівалі колькасна больш цывільных асобаў, чым ва ўсіх краінах рэгіёна, дзе пры ўладзе на той момант знаходзіліся ваенныя або паліцэйскія рэжымы.

Такі парадокс можна растлумачыць асаблівай прававой культурай калумбійскіх уладаў, якая грэбліва ставіцца да законаў або бачыць у іх крыніцу для ўзбагачэння. У тым ліку гэта выявілася і ў выпадку так званага «Falsos positivos».

Лічыцца, што жудасная гісторыя «Falsos positivos» пачалася ў сярэдзіне нулявых падчас адміністрацыі прэзідэнта Альвара Урыбе. Яму ў спадчыну ад папярэднікаў дасталася праблема партызанкі. Нагадаем, што прыкладна з пачатку 1960-х калумбійскія леварадыкальныя групоўкі FARC і ELN вядуць партызанку, рэкрутуючы байцоў з індзейцаў і сялян.

Паколькі папярэднія спробы вырашыць партызанскае пытанне праваліліся, Урыбе і яго дарадцы задумаліся наконт новых рэцэптаў. У прыватнасці, з'явілася ідэя прапанаваць вайскоўцам матэрыяльны стымул — грашовыя прэміі або новыя званні за забітых герыльерас. Факт расправы над забітымі партызанамі павінен быў пратакаліравацца адмысловымі інспектарамі. На базе дакумента планавалася разлічваць памер бонусу. Напэўна, ідэя заахвочвання павінна была стымуляваць салдат больш смела атакаваць паўстанцаў.

Аднак вельмі хутка вайскоўцы знайшлі больш лёгкі спосаб зарабіць абяцаныя прэміі. Яны пачалі завабліваць бедных, а часам нават разумова адсталых мірных жыхароў у аддаленыя раёны краіны, прапаноўваючы ім добрую працу. Калі нанятыя работнікі прыязджалі ў прызначанае месца, іх забівалі, пераапраналі ў форму партызан — і выдавалі за забітых у сутычках паўстанцаў. Такім чынам можна было досыць хутка атрымаць падвышэнне па службе або грашовыя ўзнагароджванні.

Доўгі час гэтую практыку афіцэры трымалі ў сакрэце. Скандал выбухнуў толькі ў 2008 годзе, калі 22 чалавекі з мястэчка Соачы, якіх нанялі на працу, былі знойдзеныя мёртвымі ў некалькіх сотнях міль ад роднага горада. Пазней вярбоўнік прызнаўся, што ён атрымаў 500 долараў ад калумбійскага афіцэра за кожнага чалавека, якога ён завербаваў і даставіў у вызначанае месца.

**Некаторыя журналісты і юрысты лічаць, што фігурантамі працэсаў павінны стаць экс-прэзідэнт і шэраг яго бліжэйшых дарадцаў па сілавым блоку. Ёсць інфармацыя, што яны ведалі пра тыя забойствы**

Як і варта было чакаць, спачатку кіраўніцтва Мінабароны ўсё адпрэчвала. Інфармацыя пра забойствы маляваліся як фэйкі з мэтай запляміць вайскоўцаў і падарваць іх баявы дух. Максімум, на што пагадзіліся ўлады, — змяніць сістэму падліку загінулых і адправіць на пенсію тузін генералаў.

Аднак неўзабаве хаваць факты стала немагчыма. У выніку ў чэрвені 2012 года па справе забойства жыхароў Соачы шэсць вайскоўцаў былі асуджаныя да доўгіх тэрмінаў турэмнага зняволення. Па стане на чэрвень 2012 года ва ўсіх частках краіны было расследавана ў агульнай колькасці 350 такіх спраў, і па 170 справах былі вынесеныя прысуды.

Следства па фактах забойстваў працягваецца, і з кожным днём падрабязнасці становяцца ўсё больш страшнымі. Паводле даных расследавання, у перыяд з 2002 па 2010 год агулам сілавікі забілі 10 тысяч мірных жыхароў, якіх потым выдалі за баевікоў FARC і ELN.

Пры гэтым праваабарончыя групы сцвярджаюць, што судовыя справы ідуць занадта павольна, што, ўласна, не дзіўна. Некаторыя журналісты і юрысты лічаць, што фігурантамі працэсаў павінны стаць экс-прэзідэнт і шэраг яго бліжэйшых дарадцаў па сілавым блоку. Ёсць інфармацыя, што яны ведалі пра тыя забойствы. Нейкім чынам быў датычным да забойстваў нават адзін з амбасадараў ЗША, якія традыцыйна падтрымліваюць калумбійскую адміністрацыю.

У гэтым плане можна дапусціць, што зацягванне спраў наконт «Falsos positivos» і адсутнасць вердыктаў у дачыненні да злачынцаў садзейнічала росту радыкальных антысістэмных настрояў у калумбійскім грамадстве. Канчатковы вынік можна назіраць сёння ў інфармацыйных стужках. Ужо месяц у краіне працягваюцца пратэсты, нагодай для якіх стаў праект падатковай рэформы. І хоць кіраўнік дзяржавы ад ідэі рэформы даўно адмовіўся, пагасіць бунт не атрымліваецца. Штодня паступаюць паведамленні аб новых ахвярах.

28 траўня ў горадзе Калі ўзброеныя асобы, сярод якіх былі супрацоўнікі паліцыі, адкрылі агонь па дэманстрантах, журналістах, якія асвятлялі пратэсты, і проста па мінаках. Сярод загінулых ёсць супрацоўнік паліцыі, якога ў адказ забілі пратэстоўцы. Агулам загінулі 14 чалавек і 98 чалавек атрымалі раненні, 54 з іх — з агнястрэльнай зброі. ААН апэратыўна заклікала сілавікоў і грамадзян спыніць гвалт і пачаць дыялог.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Іван Жданаў



Расійскі юрыст, супрацоўнік «Фонду барацьбы з карупцыяй» (ФБК) Аляксея Навальнага, які знаходзіцца ў эміграцыі, у тым ліку адказвае за контрвыведку навальністаў, адрапартаваў пра буйны поспех. Жданаў сцвярджае, што вызначыў чалавека, які здабыў і перадаў спецслужбам персанальныя даныя людзей, які рэгістраваліся на сайце «Свабоду Аляксею Навальнаму!». Менавіта гэтай скарысталіся расійскія спецслужбы падчас нядаўняй маштабнай зачысткі апазіцыі.

Вінаватым ва ўсім, калі верыць Жданаву, з'яўляецца актывіст піцерскага штаба ФБК Фёдар Гараджанка. Гараджанка абвінавачванне адпрэчвае, але не каментуе адзін значны факт: у першай палове красавіка, гэта значыць напярэдадні ўзлому базы апазіцыі, Гараджанка паклаў на свой рахунак у сукупнасці 1,24 мільёна расійскіх рублёў. Вядома, «адначасова» — не значыць, што грошы ён атрымаў за здраду, аднак супадзенне сапраўды цікавае.

Праўда, прэса дапускае сцэнар, паводле якога Гараджанку злілі менавіта агенты ФСБ, якія з ім кантактавалі. Напрыклад, каб паказаць беспрынцыповасць і прадажнасць антыпуціністаў або прадставіць іх у выглядзе павукоў у слоіку.

Так ці інакш, дзейнасць Жданава заслугоўвае павагі — праведзены аналіз сеткавага трафіку, вызначаныя і ідэнтыфікаваныя адрасы і прыналежнасць выкарыстаных прыладаў, выяўлена дзеянне хакерскай праграмы для запампоўкі і гэтак далей. Нарэшце, варта згадаць, што Жданаў паабяцаў правакатару цэлых пяць крымінальных артыкулаў пасля таго, як у Расіі пераможа дэмакратыя.

### Пшэмыслаў Чарнэк



Міністр адукацыі ўрада Польшчы анансаваў новы этап у гуманітарнай палітыцы краіны. Першым крокам у гэтым кірунку стане стварэнне новай школьнай праграмы па гісторыі, якая яшчэ да яе публікацыі выклікала скандал.

Справа ў тым, што праграма, як лічыць Чарнэк, павінна назаўжды адкінуць «педагогіку сораму», якая дамінавала ў праграмах выкладання гісторыі ў мінулым. Гэта праяўлялася ў тым, што ў старых падручніках занадта мала пісалі пра ролю палякаў у гісторыі Еўропы. Акрамя таго, як лічыць чыноўнік, прыйшоў час расказаць школьнікам і студэнтам праўду пра прыроду еўрапейскай інтэграцыі. «Далучэнне Польшчы да Еўрапейскага саюза, Лісабонскі дагавор, знаходжанне Польшчы ў сучасным Еўрапейскім саюзе — гэта эвалюцыя Еўрапейскага саюза ад заканнага да незаконнага фарміравання. Вучні павінны ведаць сітуацыю, у якой мы знаходзімся», — лічыць пан Чарнэк. Міністр таксама намякнуў на ачышчэнне сістэмы адукацыі ад левых і лібералаў, што выклікала пратэсты з боку апазіцыі.

У сваю чаргу, эксперты хутчэй разглядаюць прапанову чыноўніка ў кантэксце новай юрыдычнай спрэчкі паміж Варшавай і Бруселем. Днямі польскі ўрад заявіў пра намер ігнараваць інструкцыю ЕС аб закрыцці вялікай вугальнай шахты ў Сілезіі.

### Тыгран Мукучан



Калі верыць армянскім эколагам, кіраўнік Цэнтральнай выбарчай камісіі Арменіі збіраецца арганізаваць самыя антыэкалагічныя выбары ў гісторыі.

Нагадаем, што падчас палітычнага крызісу ў Арменіі, які быў выкліканы заключэннем мірнай дамовы з Азербайджанам у лістападзе 2020 года, узнікла ідэя датэрміновых выбараў у парламент як сродак прымірыць бакі канфлікту. Праект падтрымаў прэм'ер Нікол Пашынян, які ў канцы красавіка сышоў у адстаўку. Што тычыцца даты выбараў, то яны пройдуць 20 чэрвеня. Падчас галасавання ўпершыню выбаршчыкам выдадуць 26 аркушаў, на кожным з якіх будзе назва аднаго з 26 блокаў і партый — удзельнікаў выбарчых кампаній. Чалавек, які будзе галасаваць, мусіць абраць патрэбны бюлетэнь. Астатнія аркушы акажуцца ў сметніцы. Затым тыя паперы будуць знішчаныя.

Паколькі спальваць нявыкарыстаныя бюлетэні збіраюцца разам з пластыкавай тарай, гэта відавочна нанясе экалогіі велізарную шкоду. Каб ратаваць прыроду, радыкальная фракцыя эколагаў нават заклікае да байкоту галасавання. Мукучан, у сваю чаргу, пагадзіўся з тым, што на выбары будзе выдаткавана велізарная колькасць паперы. Аднак тут, па яго словах, таксама ёсць рацыя. Як кажа кіраўнік ЦВК, гэта неабходныя меры, якія дазволяць пазбегнуць несапраўдных бюлетэняў і выбарчых «каруселяў».

Між тым, палітолагі кажуць, што без скандалаў наконт фальсіфікацый усё роўна не абыдзецца. У тым ліку таму, што выбары вельмі важныя для будучыні Арменіі.

# Калі сяброўства не прадаецца



Сяргей ШАПРАН

**Як сведчылі блізкія сябры, Генадзь Бураўкін ад самай маладосці быў энергічны і яршысты — гэтае вызначэнне не раз сустракаецца ў характарыстыках самых розных людзей, што ведалі яго з універсітэцкіх часоў.**

Гэта Генадзь Бураўкін разам з Анатолем Вярцінскім публічна абараніў Васіля Быкава ў 1966 годзе, у той час, як з крытыкай не толькі «крамольнай» аповесці «Мёртвым не баліць», але і ўсёй творчасці пісьменніка выступіў галоўны беларускі афіцыёз — газета «Советская Белоруссия». Па тагачасных мерках гэта было штосьці нечуванае — наважыцца запярэчыць генеральнай лініі Камуністычнай партыі, бо пазіцыя беларускага ЦК у адносінах да Быкава ў лісце Бураўкіна і Вярцінскага не проста крытыкавалася, а рэзка асуджалася...

«Якой нагодай, якой патрэбай выклікана такое паспешнае і нечаканае для многіх пісьменнікаў і чытачоў газеты з'яўленне рэдакцыйнага артыкула? — гаварылася ў тым лісце. — Недаўменне яшчэ больш расце, калі чытаеш, як "Советская Белоруссия" папракае Саюз пісьменнікаў і яго літаратурныя выданні ў тым, што яны "столь долго не замечали, что В. Быков постепенно начинает отходить от жизненной правды". Няўжо сапраўды адзін з вядомых і любімых чытачамі беларускіх пісьменнікаў з кожным новым творам усё больш адыходзіў ад жыццёвай праўды? Калі гэта, дапусцім, было, то чаму ж "Советская Белоруссия" — орган Цэнтральнага Камітэта Кампартыі Беларусі — маўчала? Чаму яна не папярэдзіла своечасова тыя зрывы, якія, на думку газеты, вымагаюць цяпер суровага асуджэння? [...] Не можа не ўстрывожыць і здзівіць тон артыкула — грубы, катэгарычны, "праработачны". Не клапоцячыся аб аргументацыі, аб доказах, В. Быкава абвінавачваюць у тым, што ён сваімі творамі "не способствует воспитанию у народа любви и уважения к Советской Армии, оскорбляет лучшие патриотические чувства наших людей...". [...] Выклікае недаўменне і здзіўленне, што ў артыкуле сустракаюцца і перакручванне, і падтасоўка цытат. [...] Беззапеляцыйны тон, палітычныя абвінавачванні, пературмкі ў артыкуле "Вопреки правде жизни" з'яўляюцца своеасаблівым рэцыдывам вульгарызатарскай крытыкі. [...] Памятаючы ленінскія словы аб тым, што талент пісьменніка трэба берагчы, лічачы Васіля Быкава, безумоўна, таленавітым пісьменнікам, мы не можам пагадзіцца з рэдакцыйным артыкулам "Советской Белоруссии", які ставіць пад сумненне творчасць празаіка, не можам прыняць яго грубы, нетактоўны тон».

## «Мы такога ў 1937 годзе не зрабілі»

Генадзь Бураўкін і Анатоль Вярцінскі толькі праз трыццаць гадоў распавялі, як канспіратыўна-паўдпольна збіралі тады подпісы, паклікаўшы на дапамогу свайго сябра Ніла Гілевіча.

«Той факт, што пісьмо падпісалі нашыя аднагодкі, людзі аднаго з Быкавым літаратурнага пакалення, быў зразумелы: усе мы былі дзецьмі XX з'езда, — прыгадваў Генадзь Мікалаевіч. — Але было вельмі важна — я і сёння гэтым вельмі даражу, — што нас у нашым парыве барацьбы за справядлівасць падтрымалі людзі, на якіх я заўсёды глядзеў з душэўным трапятаннем, бо мы вывучалі іх кнігі яшчэ ў школе, здавалі па іх творчасці экзамены. Нас падтрымалі выдатныя людзі літаратуры, у якую мы толькі-толькі ўваходзілі: Міхась Лынькоў, Аркадзь Куляшоў, Іван Мележ, Янка Брыль...». Іншым жа разам Бураўкін скажа: «Для мяне гэта быў вялікі ўрок жыцця. Прынамсі, у тым, як розныя людзі ставілі свае подпісы».

Сапраўды цікава, як рэагавалі тагачасныя класікі на прапанову падпісаць ліст у падтрымку маладога калегі, што нечакана патрапіў у апалу да ўлады. Да прыкладу, Іван Мележ прачытаў тэкст адзін раз і — адклаў. Прачытаў другі раз — і зноў адклаў. Прачытаў трэці раз і, нічога не кажучы, узяў ручку і напісаў: «Іван Мележ».

Міхась Лынькоў ухваліў адразу: «Хлопцы, вы малайцы! Мы такога ў 1937 годзе не зрабілі. Але ж будзе вам за гэта...» (Яго, дарэчы, потым некалькі гадоў не выпускалі за мяжу, аднак, падпісваючы, Лынькоў ведаў, што без санкцый не абыдзецца.)

Яшчэ адзін класік — Аркадзь Куляшоў, прачытаўшы ліст, заўважыў, што меў намер пайсці заўтра па асабістай справе да першага сакратара ЦК Пятра Машэрава, але, рашуча махнуўшы рукой, сказаў: «Давайце — падпішу! Быкава трэба падтрымаць!»

Іншы ж сталы празаік, равеснік Лынькова, Ілля Гурскі, стаў адгаворваць: «Не трэба, хлопцы, гэта рабіць, бо бяды наробіце ўсім нам і Быкаву. Пашкадуйце свае маладыя чупрыны!» І — не падпісаў.

Камічная гісторыя адбылася з Іванам Навуменкам: спярша ён казаў, што літаратар павінен знаходзіцца па-філасофску над схваткай і адмовіўся падпісваць. А якраз у той дзень Бураўкін з Вярцінскім пастанавілі завяршыць збор подпісаў — хто падпісаў, той падпісаў. Як раптам апоўначы тэлефонны званок: «Я перадумаў, хачу падпісаць», — гэта быў Навуменка. «Хацець ты, Іване, — адказаў Бураўкін, — можаш, але падпісаць — не. Раней трэба было падпісваць...» І вось наранiцы, калі гаспадары яшчэ спалі, званок у дзверы бураўкінскай кватэры — гэта быў Навуменка... Іван Якаўлевіч уздыхнуў з палёгкай, толькі калі паставіў нарэшце подпіс: «Цяпер я магу жыць у згодзе з сумленнем».



**Генадзь Бураўкін і Васіль Быкаў.** Фота Сяргея Шапрана

А трэба ж было яшчэ аднесці ліст у ЦК... Жонка Бураўкіна Юлія Якаўлеўна згадвала, што калі праводзіла яго да сакратара ЦК КПБ па ідэалогіі Станіслава Пілатовіча, то глядзела ўслед, безнадзейна думаючы, што наступным разам яны ўбачацца цяпер вельмі не хутка...

І сапраўды, Бураўкін з Вярцінскім неверагодна тады рызыкавалі. Рызыкавалі не толькі кар'ерай, але і свабодай. Пройдзе зусім няшмат часу, і іншыя блізкія быкаўскія сябры — пісьменнік Аляксей Карпюк і гісторык Барыс Клейн — ледзь не будуць выкінуты на абочыну жыцця: супраць Карпюка па надуманай падставе будзе заведзена крымінальная справа, Клейна ж, пазбавіўшы вучонай ступені і звання, звольняць без права пакінуць горад. Былыя яго калегі будуць перабягаць на іншы бок вуліцы, каб, крый божа, не павітацца...

Гэта толькі праз трыццаць з лішкам гадоў, калі былі адкрытыя архівы ЦК КПСС, стала вядома, што імёны Бураўкіна і Вярцінскага фігуравалі ў дакладной старшыні не беларускага, а ўсесаюзнага КДБ — Уладзіміра Сямічаснага. Ён паведамляў сакратару ЦК КПСС па ідэалогіі Міхаілу Суславу:

«Камітэт дзяржаўнай бяспекі дакладвае аб працэсах у асяроддзі беларускіх пісьменнікаў, выкліканых апублікаваннем і крытыкай аповесці В. Быкава "Мёртвым не баліць". Рэзкае размежаванне меркаванняў было выклікана рэдакцыйным артыкулам газеты "Советская Белоруссия" "Вопреки правде жизни" пра творчасць В. Быкава і асабліва дадзенай у ёй ацэнкай аповесці. [...] Некаторыя беларускія пісьменнікі адкрыта сталі на абарону В. Быкава, лічачы, што газета "Советская Белоруссия" выступіла неаб'ектыўна. Загадчык аддзела газеты "Літаратура і мастацтва", член КПСС пісьменнік Г. Бураўкін заявіў: "Советская Белоруссия" перакрэсліла творчасць В. Быкава і выклікала адваротную рэакцыю сярод пісьменнікаў. Адбываецца здзек. Пасля выступу газеты складваецца ўражанне, што В. Быкава судзяць як на працэсе". [...] Маладыя пісьменнікі Г. Бураўкін і А. Вярцінскі напісалі ліст у ЦК КПБ супраць артыкула "Вопреки правде жизни" і праводзілі збор подпісаў сярод пісьменнікаў рэспублікі. [...]».

Але сур'ёзных наступстваў для Вярцінскага і Бураўкіна, па шчасцю, не было ні тады, ні пасля. Калі не лічыць, што ў Саюзе пісьменнікаў адбыўся партыйны сход, на якім Генадзя Бураўкіна павінны былі, асудзіўшы за парушэнне працоўнай дысцыпліны, выключыць з шэрагаў КПСС, але пісьменнікі — нават тыя, з якімі ён знаходзіўся не ў самых лепшых адносінах, — паўсталі на яго абарону.

Дый праз два гады пры вылучэнні на пасаду ўласнага карэспандэнта «Праўды» ўсё той жа сакратар ЦК КПБ Пілатовіч даслаў Генеральнаму сакратару ЦК КПСС Брэжневу дакладную, у якой, назваўшы Бураўкіна нацыяналістам і ненадзейным таварышам, заявіў, што Машэраў дапускае грубую палітычную памылку, падтрымліваючы гэтую сумніўную кандыдатуру...

І хоць той ліст мала чым дапамог Васілю Быкаву, але, як ён напісаў тады ж, у 1966-м, аднаму з ініцыятараў збору подпісаў: «Дзякаваць богу, ёсць яшчэ на свеце сяброўства. Хлопцы падбадзёрваюць — гэта ўмацоўвае мае сілы. [...] Але — вытрымаем! І падтрымка сяброў — абавязвае». І ўжо пазней зноў вярнуўся да гэтай гісторыі: «...Справа не ў выніках заступніцтва, якое практычна ці мела сэнс, для пакрыўджанага болей важна было звычайнае пачуццё спачування, чалавечай спагады, якія грэюць болей, чым мiласэрны прысуд начальства, якога тады якраз і не дачакаліся. І для мяне, і для маіх заступнікаў, якіх у Саюзе пісьменнікаў набралася аж за 60 асобаў, то быў учынак сумлення, хрысціянскай міласэрнасці. Ён не даў памерці надзеі і пабудзіў светлую спадзяванку, без якой чалавек — не чалавек. Тым болей не творца і наўрад ці грамадзянін».

...Між іншым, арыгінал гэтага ліста не знойдзены і пасёння. Але зусім нядаўна адшукаўся ягоны чарнавы аўтограф — напісаны, відаць, Анатолем Вярцінскім і перапісаны Бураўкіным. Увесь гэты час ён захоўваўся ў хатнім архіве Генадзя Мікалаевіча.

## «Ніколі не даруюць тваёй беларускасці...»

Пройдзе тры дзесяцігоддзі, і Генадзь Бураўкін зноў будзе пастаўлены перад маральным выбарам...

1994 год. Пасля шматлікіх прашэнняў аб адстаўцы з пасады пастаяннага прадстаўніка Рэспублікі Беларусь у ААН яму, нарэшце, дараваная вольніца. Пра ягонае вяртанне ў той час хадзіла процьма чутак. Сцвярджалі, у прыватнасці, што ён адпраўлены ў адстаўку за цесны кантакт з эміграцыяй. Гэтаксама хапала плётак пра новае прызначэнне — маўляў, яму прапанавалі пяць пасад адразу, а Бураўкін хітрыў ды адмаўляўся. Сам жа Генадзь Мікалаевіч тлумачыў, што апошнюю заяву з просьбай разгледзець пытанне аб вяртанні напісаў яшчэ ў красавіку 1993-га, і яму па-ранейшаму было не ясна, чаму так доўга ягонае пытанне «разглядалася, удакладнялася, узгаднялася, вырашалася, узнімалася, апускалася»...

Зрэшты, калі Генадзь Бураўкін з'язджаў з Беларускай ССР, то вярнуўся ў незалежную Рэспубліку Беларусь. І хоць, па ягоных словах, тагачасны «гаспадар» краіны Вячаслаў Кебіч папярэдне гарантаваў пасаду міністра культуры і друку, але потым, перадумаўшы, прапанаваў датэрміновы выхад на пенсію. І гэта ў 57 гадоў! Даведаўшыся пра тое, Васіль Быкаў казаў: «Генадзь, наіўны ты чалавек. А што ты хацеў? Ды нікуды цябе не пусцяць. І не таму, што ты няўмека ці вораг — табе ніколі не даруюць тваёй беларускасці...»

У гэтыя невясёлыя дні і сустрэўся беспрацоўнаму Надзвычайнаму і Паўнамоцнаму паслу даўні «камсамольскі» знаёмы, які даверліва і неафіцыйна паведаміў, што ў яго можа быць неверагодна высокая пасада, але пры адной умове: калі ён публічна, у друку, адмовіцца ад сяброўскіх адносін з Васілём Быкавым. «Перадайце вашаму ўсёмагутнаму патрону, — адказаў Бураўкін, — што на свеце няма і не будзе такіх пасад, за якія я мог бы прадаць сяброўства з Васілём».

У выніку ягоныя жыццё і кар'ера канчаткова і беспаваротна паляцелі пад адхон: пэўны час ён заставаўся без працы, пакуль нарэшце не атрымаў прызначэнне ўсяго толькі намеснікам міністра, дый то на зусім непрацяглы час... Так пачаўся апошні драматычны акт яго жыцця, які доўжыўся без малага дваццаць гадоў. Аднак, нават паміраючы, ён скажа, што недарэмна пражыў жыццё, і дадасць: «Гэта я смела скажу, таму што тры рэчы, якія я зрабіў, робяць мне гонар. Гэта тое, што я зрабіў нацыянальнае беларускае тэлебачанне, тое, што ўдзельнічаў у абароне Быкава...»

# «Рашэнне Савета Міністраў паўплывала»

## З мінскага «Дынама» сыходзіць трэнер

Сяргей КАЙКО

**Футбольнае першынство краіны сышло на двухтыднёвы перапынак. Не, не дзеля таго, каб адпачыць і павітаць надыход лета дзесьці на барбекю ці якім іншым пленэры. Каляндар вышэйшай лігі расчапілі патрэбы нацыянальнай зборнай — ёй якраз гуляць таварыскія матчы.**

Адзін ужо адбыўся — у сераду супраць азербайджанцаў, другі восьвось — у панядзелак з цёмнаскурымі хлопцамі са Сьера-Леонэ.

Супернікі, што казаць, гэтым разам вельмі годныя. І не шукайце іронію там, дзе яе няма. Бо калі б у календары здарылася якая-небудзь каманда з Заходняй Еўропы, то не пабачылі б яе, хутчэй за ўсё, на нашых неспакойных перакрыжаваннях. Вунь літоўцы ўжо адмовіліся ехаць у Мінск, вунь кіпрыёты таксама спасаліся на неправадольныя абставіны, вунь адмянілі кантынентальны чэмпіянат па велатрэку... Ну, вы ведаеце — палітыка, лагістыка ды ўсё такое іншае. А з Афрыкі і Закаўказзя самалёты яшчэ лётаюць, махаючы крыламі, хай сабе і складанымі маршрутамі.

### «Я ўжо напісаў заяву»

Няпроста ўсё цяпер і ў самой беларускай зборнай. Пасля непазбыўных 0:8 у Бельгіі і ахвярнага звальнення галоўнага трэнера Міхаіла Маркеля каманду аддалі на «перапрымку» Георгію Кандрацьеву — былому асістэнту настаўніка. Надалі яму статус «выконваючы абавязкі», а там ці будуць шукаць новага прарока, ці пакінуць усё як ёсць. Бо зразумела ж: якія б напалеонаўскія гарызонты ні акрэсліў той славутай канцэпцыі развіцця, рэчаіснасць не прынясе на нашы абшары анічога гераічнага. Бо няма грунту, рэсурсу, паліва — няма нічога, каб перці на высокія арбіты на першай касмічнай хуткасці.

Што да чэмпіянату, то за мінулым турам пацягнуўся прадказальны шлейф — трэнерская адстаўка ў мінскім «Дынама». Прайграўшы брэсцкаму «Руху», пра сыход з пасады абвясціў Леанід Кучук — ці не самы аўтарытэтны настаўнік сённяшняга беларускага клубнага футбола. Чаму тое прадказальна? Таму што сярод матываў звальнення знайшліся і «палітычныя» — так, менавіта тыя самыя, што звязаныя з дырэктыўным абмежаваннем па фінансавых выплатах. Мы пісалі пра гэтую нашумелую столь заробкаў — і пра наступствы, якія могуць падкрасціся ў найбліжэйшай будучыні. Ну і вось — здароў марозны звонкі вечар!



Леанід Кучук: нядоўга музыка грала

Фота «Коммерсант»

«Я прыняў рашэнне сысці з "Дынама", — сказаў Кучук пасля паразы 0:1 ад берасцейцаў. — Ужо напісаў заяву. Тут шмат прычын: дзесьці я вінаваты, дзесьці рашэнне Савета Міністраў паўплывала. І іншае, іншае, іншае... Дзякуй вам за ўвагу. І да сустрэчы».

Такі быў развітальны спіч галоўнага трэнера, і хаця на момант напісання гэтага матэрыялу афіцыйна заяву працадаўца не зацвердзіў, сумневаў у тым амаль не было ад самага пачатку. Інсайдэры нават называлі імя найбольш верагоднага пераемніка Кучука — гэта Арцём Чалядзінскі, малады спецыяліст з дынамаўскай сістэмы.

Зрэшты, галоўнае ж не ў тым, хто стане за стырно старэйшага футбольнага клуба Беларусі. Галоўнае — у абставінах, якія з ракіроўкай на трэнерскай пасадзе нікуды не дзенуцца. Бо столь заробкаў — гэта столь спартыўных вынікаў, і гэтую повязь на доўгай дыстанцыі яшчэ ніхто не абвяргаў. Два гады таму, «канфіскуючы» «Дынама» ў прадпрымальніка Юрыя Чыжа, улады меркавалі зрабіць яго ўстойліва паспяховым, што без шчодрага фінансавання немагчыма. Вядома, што былі планы па перадачы футбольнага актыву ў заможныя прыватныя рукі — у прэсу нават прасочваліся прозвішчы буйных бізнесоўцаў Віктара Пракапені і Міхаіла Гуцэрыева. Але, як кажуць, нешта пайшло не так — і ў выніку «Дынама» фактычна нацыяналізавалі.

Далей разлік быў просты: забяспечыць клубу зайздросныя ўмовы за кошт яго асобнай гістарычнай важкасці і адпаведнага адміністрацыйнага рэсурсу. Гэтым кірункам і рухаліся — і крочылі шырока, бо зімой змаглі «закантрактаваць» не толькі шэраг моцных гульцоў, але і вярнуць да альма-матэр дынамаўскіх легендаў — Сяргея Кісляка і Антона Пуцілу. Але ж вось пагрукаўся ў дзверы дакумент ад урада, ён патрабуе скарацілі заробкі. І выглядае, што ўся мадэль «Дынама» 2.0 крышыцца наўпрост на нашых вачах.

### Айчынная сатыра

Тут, дарэчы, паўстае цікавая акалічнасць: як яно так выкруцілася, што перад новым саўмінаўскім цыркулярам усе роўныя, але самае крывое — менавіта сталічнае «Дынама»? Часткова мы ўжо гэтае пытанне падсвечвалі — бо ў большасці каманд узровень аплаты плюс-мінус і так упісваецца ў акрэслены калідор, і ніхто макаўкай у тую столь не грукае. У становішчы, аналагічным дынамаўскаму, па вялікім рахунку, аказаліся толькі два клубы — такія ж багаценькія і сілкаваныя за кошт у тым ліку дзяржаўных грошай. Гэта «Шахцёр» і БАТЭ, дзе хапае гульцоў з заробкамі большымі, чым тыя непераадольныя 8 ці 15 тысяч рублёў. Але ж у Салігорску і Барысаве, падаецца, знайшлі нейкія вакольныя шляхі. Бо, скажам, той жа «Беларуськалій» можа аформіць падтрымку і ў выглядзе рэкламных кантрактаў, а ў БАТЭ, напэўна, яшчэ засталіся фонды, сфарміраваныя ў гады ўдалых еўракубкавых эпапей. Таму яны пакуль і не енчаць, і на месцах іх трэнеры, а футбалісты кляпаюць перамогі і з задавальненнем засоўваюць карткі ў банкамат.

Пра «Дынама» гэтага нельга было сказаць і да абвешчанай «харчразвёрсткі» І тут, канешне, самы час падкрэсліць, што Леанід Кучук абраў добрую нагоду для адстаўкі. Бо тое, што мінскі праект яму не даецца, выявілася задоўга да гэтага летняга абвастрэння. Ён уначаліў сталічны клуб летась у красавіку — і ўвесь гэты час каманду пад яго кіраўніцтвам адчувальна ліхаманіла. Была надзея, што сёлета, добра папрацаваўшы ў міжсезонне, дынамаўцы акрыяюць і ўсё ж выберуцца на сухую грэблю. Але мінула вясна — і відавочна, што хранічная сімптаматыка нікуды не падзелася. Мінчане нявесела кукуюць на пятым месцы ў табліцы, прыкметна саступаючы — што асабліва прыкра — канкурэнтам у якасці гульні.

Што ж, усё сышлося ў такім разе, і трэнерскае крэсла, якое так і не стала шчаслівым, Леанід Кучук пакідае з унутранай палёгкай. Сямнаццаць гадоў яго не было ў беларускім футболе — з тых часоў, як ён з'ехаў працаваць за мяжу. Там склалася — і ў Малдове, і ў Расіі, а вось другі заход у родныя мясціны аказаўся блуканнем у лабірынце.

Трэцяга заходу, мабыць, не будзе. І не толькі таму, што Кучуку хутка 62 гады, і бліжэйшы час ён яўна плануе правесці ў адпачынку — меркавана, у Адэсе, дзе адчувае сябе як дома. Проста з футболам нашым цяпер адбываецца нешта не тое — і спецыялісты пра гэта кажуць прамым тэкстам. Часам сугучна з эпічнай разанаўскай камедыяй «Гараж»: «Вы чым займаецеся?» — «Сатырай». — «Замежнай?» — «Нашай». — «У вас цудоўная прафесія. Вы займаецеся тым, чаго няма».

### Светлая пляма

Зрэшты, занадта драматызаваць усё-ткі не варта. Беларускі футбол — не айчынная сатыра, ён ёсць, проста крыху нягеглы, як і шмат што іншае. Тут галоўнае — знаходзіць разынкі пасярод вязкай мякіны. А яны знаходзяцца — вось, напрыклад, «Гомель», які на сёння займае трэцяе месца ў пелетоне.

Яшчэ год таму гэты клуб боўтаўся ў першай лізе, маркотна разграбаючы наступствы скандалу з дагаварнымі матчамі. Жыццё здавалася болем, бо як жа: другі па насельніцтву горад краіны, цудоўны стадыён, шматлікія заўзятары... Такому бэкграунду пасуе моцны футбол, але яго гамяльчане неяк паступова страцілі — пасля баявых нулявых і пачатку дзесятых гадоў, калі і золата чэмпіянату выйгравалі, і Кубак краіны бралі, а ў еўракубках нават супернічалі з зорным «Ліверпулем».

І вось пасля гэтага — багна першай лігі, куды паўднёвая каманда, зрэшты, падала і раней. Аднак тут важна хутка падняцца, і, відаць, гэтым разам у гамяльчан гэта атрымліваецца. Пасля 11 тураў яны займаюць пачэсны «бронзавы» радок — ім у патыліцу дыхаюць і статуснае мінскае «Дынама», і багаценькі «Рух». І як тут не згадаць, што і футбалісты з пазіцыяй у «Гомелі» ёсць — тыя, што публічна адмовіліся ад подпісаў пад лістом праўладных спартсменаў, дый галоўны трэнер Іван Біёнчык годна выказваўся наконт сітуацыі ў краіне.

А цяпер яны і на полі паказваюць клас, і зусім не падобныя на андэрдогаў ні прафесійна, ні ментальна.

### Чэмпіянат Беларусі

**ТУР 11. 28.05.** ВІЦЕБСК — СМАРГОНЬ — 5:0 (1510; Вандэрсан, 16, Дыега Сантас, 31, Матвеянка, 48, 67, Чарвякоў, 77). ДЫНАМА (Мінск) — РУХ (Брэст) — 0:1 (2150; Лапцеў, 55).

**29.05.** ТАРПЕДА-БЕЛАЗ (Жодзіна) — ШАХЦЁР (Салігорск) — 0:1 (1215; Дарба, 28). БАТЭ (Барысаў) — СЛАВІЯ (Мазыр) — 3:0 (2250; Скавыш, 17, 59, Умараў, 43). НЁМАН (Гродна) — СПАДАРОЖНІК (Рэчыца) — 2:2 (540; Куадзіа, 51, Курловіч, 78-аўтагол — Канцадайлаў, 17, з пенальці, Санец, 39).

**30.05.** ГОМЕЛЬ — МІНСК — 5:0 (3100; Сайчыч, 3, Салавей, 22, Пабудзей, 48, Лявіцкі, 63, Кастроў, 85). СЛУЦК — ІСЛАЧ (Мінскі раён) — 2:1 (847; Альфрэд, 34, 76 — Камароўскі, 80). ДЫНАМА (Брэст) — ЭНЕРГЕТЫК-БДУ (Мінск) — 0:1 (3876; Васільеў, 56).

**ТУР 12. 11.06.** Славія — Мінск, Энергетык-БДУ — Гомель. 12.06. Іслач — Дынама Бр., Смаргонь — Слуцк, Шахцёр — Віцебск, Спадарожнік — Дынама Мн., БАТЭ — Нёман. 13.06. Рух — Тарпеда-БелАЗ.

| | | Г | В | Н | П | М | А |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. | Шахцёр | 11 | 11 | 0 | 0 | 25–5 | 33 |
| 2. | БАТЭ | 11 | 8 | 2 | 1 | 23–10 | 26 |
| 3. | Гомель | 11 | 6 | 3 | 2 | 23–10 | 21 |
| 4. | Рух | 11 | 6 | 3 | 2 | 19–11 | 21 |
| 5. | Дынама Мн. | 11 | 6 | 2 | 3 | 16–7 | 20 |
| 6. | Віцебск | 11 | 4 | 6 | 1 | 14–6 | 18 |
| 7. | Дынама Бр. | 11 | 4 | 5 | 2 | 11–5 | 17 |
| 8. | Тарпеда-БелАЗ | 11 | 4 | 3 | 4 | 12–15 | 15 |
| 9. | Іслач | 11 | 4 | 1 | 6 | 16–20 | 13 |
| 10. | Мінск | 11 | 3 | 4 | 4 | 15–20 | 13 |
| 11. | Энергетык-БДУ | 11 | 3 | 3 | 5 | 11–12 | 12 |
| 12. | Слуцк | 11 | 2 | 4 | 5 | 10–17 | 10 |
| 13. | Славія | 11 | 2 | 2 | 7 | 11–20 | 8 |
| 14. | Нёман | 11 | 1 | 4 | 6 | 8–15 | 7 |
| 15. | Смаргонь | 11 | 1 | 1 | 9 | 4–27 | 4 |
| 16. | Спадарожнік | 11 | 1 | 1 | 9 | 6–24 | 4 |

## ДЗЕНЬ НАРОДЗІНАЎ ЗА КРАТАМІ

**Павіншуйце палітвязняў паштоўкай ці тэлеграмай або адпраўце грашовы перавод да свята. А яшчэ ў вас ёсць магчымасць даслаць віншаванне ў рэдакцыю, а мы яго надрукуем. Працягваем знаёміць з тымі, у каго дзень народзінаў у чэрвені.**

### 6 чэрвеня

31-шы дзень народзінаў адзначыць шматдзетны бацька **Мікалай Мікалаевіч Шаметаў.** Быў затрыманы 21 снежня на парозе школы, куды ён адводзіў сваю дачку. Праведзены ператрус у яго кватэры,



у аўтамабілі, на офісе, дзе ён працаваў. Падчас ператрусаў канфіскавалі ноўтбук, тэлефон і працоўны жорсткі дыск. Пры гэтым пастанову на ператрус, пастанову на арышт, іншыя копіі дакументаў па ператрусе і канфіскацыі яго жонцы адмовіліся пакідаць.

31 снежня Мікалаю прад'явілі абвінавачанне па ч. 1 арт. 342 КК.

Адрас для лістоў: СІЗА-1. 220030, г. Мінск, вул. Валадарскага, 2.

69 гадоў адзначыць за кратамі **Віталь Васільевіч Зарадзей —** жыхар Брэста, абвінавачаны ў абразе суддзі (арт. 391 КК).

29 сакавіка да Віталя дамоў уварваліся людзі з аўтаматамі і затрымалі яго. У межах крымінальнай справы Віталя хацелі везці ў Мінск на псіхіятрычную экспертызу, але ён не з'явіўся ў Следчы камітэт



на выклікі. З гэтай нагоды было прынята рашэнне пра яго затрыманне і змяшчэнне пад варту на два месяцы.

Адрас для лістоў: СІЗА-7. 224030, г. Брэст, вул. Савецкіх памежнікаў, 37.



Таксама дзень народзінаў за кратамі 6 чэрвеня сустрэне **Уладзіслаў Уладзіслававіч Шынковіч —** жыхар Лідскага раёна, асуджаны на 1,5 года абмежавання волі з накіраваннем у папраўчую ўстанову адкрытага тыпу («хімія») па артыкуле 391 КК (абраза суддзі). Шынковіча прызналі вінаватым у знявазе суддзі Лідскага раённага суда Максіма Філатава.

Следства выявіла, што 17 студзеня 2021 года Уладзіслаў Шынковіч размясціў у чаце аднаго з тэлеграм-каналаў допіс, у якім даў рэзкую характарыстыку суддзі Лідскага раённага суда Максіму Філатаву. Раней Філатаў 28 кастрычніка паводле артыкулу КаАП 23.34, частка 3 засудзіў Уладзіслава Шынковіча да адміністрацыйнага арышту. На думку праваахоўных органаў, тым самым Шынковіч прынізіў «гонар і годнасць» суддзі Філатава.

З пачатку траўня Шынковіч пачаў адбываць пакаранне.

Адрас для лістоў: Выпраўленчая ўстанова адкрытага тыпу №43. 212003, г. Магілёў, вул. Чалюскінцаў, 76А.

42 гады споўніцца нашаму аўтару з 2018 года, выдатнаму журналісту-расследвальніку **Дзянісу Яўгенавічу Івашыну.**



Ён жыве ў Гродна, жанаты. Працуе таксама як рэдактар-валанцёр беларускай версіі сайта міжнароднай расследвальнай супольнасці InformNapalm з 2014 года.

Вядомы дзякуючы сваім расследванням пра ўплыў «русского мира» на Беларусь і Сірыю, пра скандальную забудову ў Курапатах, а таксама пра пераход былых украінскіх беркутаўцаў у сілавыя структуры Беларусі.

Журналіста Дзяніса Івашына 12 сакавіка затрымалі супрацоўнікі КДБ за ўмяшанне ў дзейнасць міліцыі. Праходзіць па артыкуле 365 КК.

Да позняй ночы 12 сакавіка ў кватэры журналіста сілавікі праводзілі ператрус. Таксама ў той вечар вобшук зрабілі дома ў маці Дзяніса, а 15 сакавіка прыйшлі з вобшукам да яго 95-гадовай бабулі.

— У хаце і на лецішчы правялі ператрусы, вымалі ўсе носьбіты інфармацыі: тэлефоны, ноўтбукі, камп'ютары, сім-карты, банкаўскія карткі, кнігі, нататнікі, запісы, грошы ды розную драбязу кшталту сцяжкоў, значкаў, візітовак ды інш. Вельмі цікавіла ўсё, звязанае з Украінай, хоць у пастанове на ператрус згадваецца крымінальны артыкул нібыта за распаўсюд асабістай інфармацыі. Цяпер Дзяніс знаходзіцца ў турме № 1 Гродна, — паведаміла жонка журналіста Вольга Івашына.

Адрас для лістоў: Турма №1. 230023, г. Гродна, вул. Кірава, 1.

### 8 чэрвеня

34 гады споўніцца **Аляксандру Кірыленку,** праграмісту з Віцебска. Паводле маці, яе сын



добразычлівы, спакойны чалавек, з абвостраным пачуццём справядлівасці. Ён увесь час аддае праграмаванню і захапляецца роварнымі прагулкамі. 6 верасня яго затрымалі з веласіпедам.

Прыватнае прадпрыемства, дзе працуе падсудны, ахарактарызавала Аляксандра Кірыленку як «ключавога высакакласнага спецыяліста, адказнага, добразычлівага і неканфліктнага».

Яму інкрымінавалі дзеянні паводле арт. 364 КК (гвалт або пагроза ўчынення гвалту да супрацоўніка МУС) і прысудзілі 3 снежня два з паловай года пазбаўлення волі ў калоніі агульнага рэжыму.

Паводле абвінавачання, як піша «Віцебская вясна», 6 верасня падчас вулічнага шэсця Аляксандр Кірыленка перашкодзіў дзейнасці міліцыянта патрульна-паставой службы старшага прапаршчыка Юрыя Валейчанкі. Дзяржаўны пракурор абвінаваціў Кірыленку ў тым, што з помсты за выкананне Валейчанкам службовых абавязкаў той нанёс яму не менш за два траўмуючыя ўздзеянні ў вобласць галавы і правай рукі, выбіў гумавы дручок.

Нагадаем, інцыдэнт адбыўся каля дому №43 на вуліцы Праўды ў Віцебску. Адна з удзельніц пратэставага маршу сарвала медычную маску з твару прапаршчыка Валейчанкі, той спрабаваў яе затрымаць, але за жанчыну ўступіўся Аляксандр Кірыленка, які адпіхнуў міліцыянта.

Адрас для лістоў: ПК №15. 213105, г. Магілёў, п / а Вейна, Слаўгарадская шаша 183.

### 11 чэрвеня

19-годдзе адзначыць **Леў Сяргеевіч Цяліпка —** жыхар Брэста, фігурант крымінальнай справы, распачатай па ч. 2 арт. 293 Крымінальнага кодэксу (удзел у масавых беспарадках) пасля акцый пратэсту ў горадзе 10 жніўня.

Леў знаходзіўся на волі пад падпіскай аб нявыездзе, але 22 сакавіка яго затрымалі, калі ён пайшоў у Следчы камітэт. Меру стрымання змянілі на ўтрыманне пад вартай. У лістападзе ў яго дома праводзіўся вобшук.



Адрас для лістоў: СІЗА-7. 224030, г. Брэст, вул. Савецкіх пamежнікаў, 37.

### ШАНОЎНЫЯ ЧЫТАЧЫ!

Працягваецца падпіска на «Новы Час» на II паўгоддзе 2021 года. З лютага 2021 года нас немагчыма набыць у шапіках «Белсаюздруку» (акрамя Магілёва і Магілёўскай вобласці), аднак можна аформіць падпіску на пошце ці праз сайт «Белпошты» і атрымліваць газету ў паштовую скрыню.

Нам вельмі патрэбна ваша падтрымка. Яна дазволіць нам працягваць друкаваць папяровую газету і падпісваць палітвязняў.

Падпісны індэкс «Новага Часу» — **63279**, кошт падпіскі: на 1 месяц — 4 рублі 69 капеек, на адзін квартал — 14 рублёў 07 капеек, на паўгоддзе — 28 рублі 14 капеек.

Падпішыцеся самі, прапануйце падпісацца суседзям, сябрам, бацькам!



Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г. (c) Новы Час
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 263 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17 347-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by Падпісны індэкс 63279.

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні ТАА «Ролл-Прынт». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. ЛП №02330/484 ад 16.02.2018. Замова №930

Падпісана да друку 03.06.2021. 8.00. Наклад 6600 асобнікаў. Аб'ём 3 друк. аркушы. Кошт свабодны.